№ 10 (3751)
5 лютага 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



### *Павел Лёгкі з'язджае ў Маскву*

Кіраўнік прэс-службы прэзідэнта пакінуў сваю пасаду. Цяпер ён будзе працаваць дарадцам Пасольства Беларусі ў Расійскай Федэрацыі. Павел Лёгкі ўзначальваў прэс-службу прэзідэнта з 2003 года.

# Ці будзе зменена беларускае выбарчае заканадаўства? Ці будуць разгледжаны прапановы экспертаў АБСЕ і СНД пры падрыхтоўцы паправак у Выбарчы кодэкс Беларусі?

Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына пасля прэзідэнцкай нарады, прысвечанай зменам у выбарчае заканадаўства, паведаміла, што дакумент павінен максімальна ўлічваць як нацыянальныя інтарэсы, так і міжнародныя стандарты. Але кіраўнік ЦВК тым і праславілася, што словы часта гаворыць правільныя, але потым па сутнасці нічога не мяняецца.

Падчас пасяджэння з удзелам Аляксандра Лукашэнкі, на якім абмяркоўваліся змены ў выбарчае заканадаўства, прапанаваныя ЦВК, большасць удзельнікаў не падтрымалі толькі адну ініцыятыву — аб прадастаўленні рэспубліканскім грамадскім арганізацыям колькасцю больш за тысячу чалавек права вылучаць кандыдатаў у дэпутаты. Іншыя ініцыятывы ЦВК у цэлым атрымалі падтрымку. У прыватнасці, гэта пераход да прынцыпу адноснай большасці на парламенцкіх выбарах ужо ў першым туры. Гэта значыць: каб стаць дэпутатам, не трэба будзе гнацца за 50% галасоў выбаршчыкаў, хопіць і простай большасці прагаласаваўшых. Дэкларатыўна гэта дазволіць спрасціць выбарчую кампанію і скараціць выдаткі на яе, але на практыцы гэта азначае, што другога туру на выбарах не будзе. Як, дарэчы, яго не было і ў апошнія кампаніі, бо дзіўным чынам людзі галасавалі выключна "правільна".

Яшчэ адна прапанова ЦВК — павелічэнне асабістых выбарчых фондаў кандыдатаў і дазвол ствараць такія фонды кандыдатам у дэпутаты мясцовых саветаў.

Трэцяе новаўвядзенне, якое рыхтуецца, тычыцца заклікаў да байкоту выбараў. ЦВК лічыць, што такая тактыка накіравана на зрыў выбараў і яна павінна быць выдалена і з выбарчага заканадаўства, і з перадвыбарнай дзейнасці. Іншымі словамі, кандыдатаў хочуць пазбавіць магчымасці заклікаць да байкоту выбараў.

Акрамя таго, прапанавана, каб выраб улётак і плакатаў кандыдатамі аплачваўся за кошт уласных сродкаў, а не за кошт бюджэту.

Адным словам, над тымі сур'ёзнымі прэтэнзіямі, якія ёсць да беларускіх выбараў, ЦВК, хутчэй за ўсё, нават не працавала.

Фарміраванне выбарчых камісій, калі ў іх склад не могуць трапіць прадстаўнікі апазіцыйных кандыдатаў...

Адсутнасць адкрытага і галоснага падліку галасоў...

Цэнзура выбарчых выступленняў кандыдатаў.

Адсутнасць роўных умоў для агітацыі...

Гэтыя і іншыя праблемы для ЦВК на сённяшні дзень, здаецца, не існуюць. А таму адчуваецца, што падрыхтаваныя змены выбарчага заканадаўства касметычныя, малазначныя і нават пагаршаюць умовы для вядзення перадвыбарнай кампаніі. Калі хто спадзяваўся, што беларуская ўлада сама зробіць работу над памылкамі і выправіць хібы нашых выбараў, вынікам якіх людзі ўсё менш давяраюць, то цяпер будзе расчараваны.

### Дзмітрый Усс, экс-кандыдат у прэзідэнты:

— Хочуць зрабіць так, што яўка цяпер не будзе мець значэння. Хочуць, каб "Белая Русь" і БРСМ маглі вылучаць сваіх кандыдатаў не шляхам збору подпісаў, а рашэннем саміх арганізацый *(менавіта гэтая прапанова, дарэчы, не была падтрымана на нарадзе. —* **Аўт.**). Гэта можа толькі аблегчыць фальсіфікацыю выбараў.

Галоўная задача ўлады — закамуфляваць махлярства падчас выбараў. А для нас галоўнае, каб фарміраванне выбарчых камісій было незалежным. Каб у іх склад уваходзілі прадстаўнікі ўсіх тых палітычных сіл, якія ўдзельнічаюць у выбарах.

### Сяргей Калякін, лідар кампаніі "За справядлівыя выбары", кіраўнік Партыі левых "Справядлівы свет":

— Сёння, у аўторак, прадстаўнікі партый і рухаў павінны падпісаць нашы прапановы аб унясенні змен у Выбарчы кодэкс, і яны будуць накіраваны ўсім суб'ектам заканадаўчай ініцыятывы. Працэдура падпісання будзе доўжыцца з 10 раніцы да 14 гадзін, і мы накіруем іх па ўсіх магчымых адрасах.

Уладамі абвешчана пра працэс рэфармавання выбарчага заканадаўства. Калі раней яны гаварылі, што нельга ўносіць змены ў Выбарчы кодэкс, бо ў ім усё добра, то цяпер яны кажуць, што да мая трэба вызначыцца з тым, што і як мяняць. Зразумела, што ўлады такім чынам хочуць вырашыць свае праблемы. Тыя змены, якія агучаны, не паляпшаюць, а толькі пагаршаюць сітуацыю. Самае непрыемнае тое, што яны здымаюць дзяржаўнае фінансаванне выбарчай кампаніі, і калі гэта будзе прынята, то кандыдат мусіць сам фінансаваць выбары. Пры гэтым ЦВК спасылаецца на еўрапейскі досвед. Гэта, мякка кажучы, некарэктна, бо ва ўсім свеце кандыдаты атрымліваюць дзяржаўную падтрымку. У нашых умовах гэта прывядзе да таго, што дзяржава сваіх так званых "базавых" кандыдатаў будзе фінансаваць (у тым ліку прымушаючы бізнес пералічваць грошы ў выбарчыя фонды), а астатніх яны папросту заблакіруюць. Гэта не роўныя ўмовы ўдзелу ў выбарчых кампаніях, а самая сапраўдная дыскрымінацыя. Іншыя прапановы маюць касметычны характар.

### Сяргей Альфер, юрыст, эксперт па выбарчым заканадаўстве:

— Відавочна, што частку змен у заканадаўстве планавалі пад "Белую Русь". Кандыдаты ад гэтага аб'яднання, па задумцы, павінны былі атрымаць большасць месцаў у Палаце прадстаўнікоў.

Што да таго, каб не праводзіліся байкоты выбараў за дзяржаўны кошт, то я гэта вітаю. Лічу, што такімі заявамі пра байкот палітычныя партыі цалкам спыняюць сваю працу. Такім чынам яны сыходзяць са сцэны.

***

Плануецца, што праект закона будзе ўнесены на разгляд Палаты прадстаўнікоў ужо гэтай восенню.

Калі беларусы за чэсныя выбары — усе яны павінны сказаць сваё прынцыповае слова.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**СТАЛА ВЯДОМА...**

# Алесь Бяляцкі зноў вылучаны на Нобелеўскую прэмію




Сярод іншых кандыдатаў на прэстыжную прэмію за заслугі перад чалавецтвам называюцца 15-гадовая пакістанская дзяўчына Малала Юсуфзай і расійскі праваабаронца Людміла Аляксеева.

Бяляцкі і Аляксеева намінаваліся на Нобелеўскую прэмію міру ў 2012 годзе, аднак яна была прысуджана Еўрапейскаму Саюзу, што, дарэчы, выклікала шырокую крытыку ва ўсім свеце.

Кіраўнік праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 года турмы ў лістапа]дзе 2011 года. Яго прызналі вінаватым у нявыплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасць.

Краіны ЕС, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць Бяляцкага палітвязнем, а прысуд яму — палітычна матываваным. Яны патрабуюць ад улад Беларусі вызваліць праваабаронцу. Аднак Бяляцкі дагэтуль застаецца ў Бабруйскай турме.

**ЧУЛІ?**

## *Беларусы зарабляюць у Расіі 160 тысяч долараў у год*

*Пра гэта журналістам паведаміў начальнік Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС Беларусі* ***Аляксей Бягун.*** *Ён удакладніў, што гэтая лічба атрымана экспертамі на аснове даных аб валютных перакладах, зробленых грамадзянамі Беларусі з Расіі.*

Па звестках чыноўніка, штогод у Расію прыбываюць нелегальна працаваць каля ста тысяч беларусаў. Паводле афіцыйнай статыстыкі, у 2012 годзе на падставе падпісаных працоўных дагавораў выехала на працу за мяжу, у асноўным у Расію, больш за 6,5 тысячы чалавек.

**СМЕХАТУРА**

# Служака...



У Кобрыне здарыўся непрыемны інцыдэнт з грамадскім актывістам Аляксандрам Мехам. Яго затрымалі за тое, што ў чарзе на флюараграфію ў мясцовай паліклініцы ён вёў размовы пра аграмадны памер дзяржаўнага доўгу Беларусі.

*"У чарзе было даволі шмат людзей — чалавек 25—30,* — расказаў Аляксандр Мех. *— Мяне добра ведаюць, часта падыходзяць паразмаўляць. Гэтым разам гутарка закранула праблему знешняга дзяржаўнага доўгу..."*

Як толькі Аляксандр Мех пачаў выказвацца наконт таго, што беларускі ўрад апошнімі гадамі толькі набірае даўгі, за якія прыйдзецца разлічвацца не тое што нам, але і нашым дзецям, да яго падышоў супрацоўнік міліцыі ў цывільным **Анатоль Джыга** і вывеў грамадскага актывіста з паліклінікі. Ён патэлефанаваў у мясцовы КДБ, даставіў Меха ў Кобрынскі РАУС, склаў на Меха рапарт. Той у адказ вымушаны быў пісаць тлумачальную і выслухваць пытанні прадстаўніка спецслужбы.

*"Супрацоўнік КДБ не размаўляў са мной на тэму, якую я ўзняў у чарзе ў паліклініцы. Я б сказаў, што ён задаваў пытанні агульнага характару, кшталту, як у мяне справы. Я не стаў нічога адказваць і параіў супрацоўніку вывучыць дзяржаўную мову — беларускую",* — адзначыў Аляксандр Мех.

Здавалася б, інцыдэнт вычарпаны. Бо актывіста маглі б абвінаваціць у тым, што лаяўся ў грамадскім месцы, і пасадзіць "на суткі". І такое было б не ў навіну. Але за "няправільныя" размовы ў тралейбусе, магазіне ці паліклініцы яшчэ нікога ў міліцыю не даставілялі. Бо, згодна з нашым заканадаўствам, няма складу правапарушэння ў тым, што чалавек крытыкуе ўладу, дзяржаву, міліцыю, чыноўнікаў і г.д. Больш за тое, ён мае поўнае права на свае ацэнкі і меркаванні.

Падобна на тое, што Анатоль Джыга выслужыўся першым з калег, пацягнуўшы Меха ў міліцыю. Таму мы вырашылі пазнаёміць чытачоў з "героем".

Анатоль Іванавіч Джыга вядомы ў Кобрыне як заўзяты служака. Ён у 1990 годзе прыйшоў працаваць у міліцыю на пасаду звычайнага міліцыянера матарызаванага ўзвода патрульна-паставой службы. Гэта бадай што самы нізкі ўзровень з магчымых у міліцыі. Але ўжо праз два гады стаў камандзірам аддзялення ўзвода. Яшчэ тры гады спатрэбіліся на тое, каб даказаць, што Джыга варты афіцэрскай пасады. І ў 1995 годзе ён атрымаў новае прызначэнне, стаўшы ўчастковым інспектарам. У 2003-м ужо старшага ўчастковага інспектара міліцыі зноў вярнулі ў ППСМ Кобрынскага РАУС камандзірам узвода. Аднак, прапрацаваўшы каля года на патрулях, ён зноў вярнуўся ў службу ўчастковых. Прычым не на самы лёгкі ўчастак: участковы абслугоўвае тэрыторыю, дзе жывуць цыганы. Было, што і пагоны з яго зрывалі, і з фінгаламі хадзіў. Пасля гэтага клікаў дапамогу і адпрацоўваў свой участак з АМАПам. Не аднойчы атрымліваў узнагароды, граматы, прызнаваўся лепшым участковым Брэсцкага абласнога УУС.

*"Першыя паўтара-два гады спадзяваўся на адміністрацыйныя меры ў вырашэнні многіх пытанняў. Два парушэнні на працягу года — і ставіў чалавека на прафілактычны ўлік. Цяпер вынайшаў сваю сістэму: першы трывожны сігнал — і парушальнік на асабістым кантролі",* — шчыра прызнаваўся Анатоль Джыга ў адным з інтэрв'ю.

З аднаго боку, яно не дрэнна, калі чалавек так гарыць на працы. Але, можа, яго на якія курсы павышэння кваліфікацыі трэба паслаць, каб веды аднавіў і засвоіў, дзе ёсць правапарушэнне, а дзе яго няма. І як вызначаюцца дапушчальныя межы "прафілактыкі"... А таксама патлумачыць яму, што такое дзяржаўны доўг і хто яго будзе аддаваць.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

**МІЖ ІНШЫМ**

## *Без вышэйшай адукацыі*

Эксперты Еўразійскага банка развіцця звяртаюць увагу на тое, што грашовыя пераводы — гэта толькі частка тых сум, якія атрымліваюць у Расіі беларускія гастарбайтэры. У 2012 годзе экспертамі банка было апублікавана даследаванне аб працоўнай міграцыі ў рамках АЭП са спасылкай на даныя Цэнтральнага банка РФ. Лічбы сведчаць, што ў 2009 годзе грашовыя пераводы з Расіі ў Беларусь склалі 96,1 млн долараў, у 2010-м — 164,7 млн долараў.

Многія беларусы працуюць у Расіі ў сферы будаўніцтва, транспарту, гандлю і паслуг і не маюць, як правіла, вышэйшай адукацыі.

**ТУРЫЗМ**

## *Лепель стане сталіцай зімовага адпачынку?*



Пансіянат "ЛОДЭ" прапаноўвае новы від паслуг — катанне на сабачых запрэжках.

Летась у пансіянаце рэалізавалі пуцёвак амаль у два разы больш, чым у 2011 годзе. Тут пабывалі турысты з Расіі, Францыі, ЗША, Германіі, Італіі, Польшчы і нават Кітая.

У мінулым годзе маламуты Лілі, Боска, Брава і Атос былі яшчэ маленькімі, таму вазілі толькі дзетак. Сёння яны даволі моцныя, каб пакатаць і дарослых.

У Бярэзінскім запаведніку з цэнтрам на Лепельшчыне у мінулым годзе пабывалі 42 тысячы гасцей. Сюды едуць наведаць Музей прыроды, заапарк, паблукаць па турыстычных сцежках, паназіраць за дзікімі жывёламі і птушкамі. Гэтай зімою на прагулку можна адправіцца на вельмі цікавым транспартным сродку — лыжным ровары.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

**ГУЧНАЯ СПРАВА**



## *У суд Саша Варламаў прыйшоў на мыліцах*

*У судзе Ленінскага раёна Мінска пачаўся суд па справе былога дырэктара ПУП "Агенцтва моды Сашы Варламава". Яму пагражае да 10 гадоў пазбаўлення волі.*

Суда Аляксандр Варламаў чакаў амаль два гады. За час, што ішло следства, моцна пахіснулася яго здароўе — з трэцяй групы інваліднасці яго перавялі на другую. Пасля аперацыі на пазваночніку, што адбылася ўжо пасля арышту, Варламаў дрэнна ходзіць. У залу суда ён прыйшоў на мыліцах, зазначыў, што яму аднолькава цяжка і стаяць, і сядзець. Мадэльер схуднеў і асунуўся, але трымаўся спакойна і паважліва.

Адвакат падсуднага накіраваў хадайніцтва аб змяненні меры стрымання для свайго кліента з-за яго слабага здароўя, але суддзя **Надзея Фёдараўна Навіцкая** адхіліла яго. Нагоды для адмовы — Варламава абвінавачваюць у цяжкіх злачынствах, да таго ж дзяржабвінаваўца прадставіў медыцынскую даведку, якая сведчыць, што Варламаў можа прысутнічаць у судзе падчас разбіральніцтва.

Былога дырэктара "Агенцтва моды Сашы Варламава" абвінавачваюць у махлярстве ў асоба буйным памеры, крадзяжы ў буйным памеры шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, прысваенні маёмасці, ухіленні ад выплаты падаткаў і злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі.

У судовым працэсе разглядаюць дзейнасць Варламава з 2004-га па 2011 год. У якасці пацярпелых запрошаны 375 чалавек. Каб змясціць усіх, пасяджэнне вядзецца ў той жа актавай зале, дзе праходзіў суд па справе тэрарыстаў **Уладзіслава Кавалёва** і **Дзмітрыя Канавалава**.

Нягледзячы на цяжкія артыкулы, па якіх абвінавачваюць мадэльера, некаторыя пацярпелыя сцвярджаюць, што не маюць да яго прэтэнзій. Маўляў, карысці ад Варламава для беларускай моды было куды больш, чым шкоды.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ТРАГЕДИЯ

# Кто ответит за льдину-убийцу?

*“Да, человек смертен, но это было бы еще полбеды. Плохо то, что он иногда внезапно смертен, вот в чем фокус! И вообще не может сказать, что он будет делать в сегодняшний вечер”. В истинности этих слов, вложенных Михаилом Булгаковым в уста Воланда, пришлось убедиться на своем печальном опыте семье слесаря-сантехника ЖЭС №74 г.Минска Василия Алексеевича Аборнева. Его жизнь оборвало роковое стечение обстоятельств.*

## Это не первый случай

На прошлой неделе, в ночь на 31 января, в Минске шел сильный мокрый снег, крутила метель. Температура была со знаком минус, снег не таял, снежный покров рос. Днем резко потеплело. Такая погода — одна из самых опасных. На крышах домов образуются наледь, сосульки, снежно-ледяные наросты, создающие угрозу жизни и здоровью людей. Одну из квартир на двенадцатом этаже дома №41 по улице Герасименко, который обслуживает ЖЭС №74, залило талой водой с крыши. По словам жильцов, была сделана заявка, на вызов приехала бригада слесарей-сантехников из трех человек. Среди них и Василий Алексеевич Аборнев. Бригада работала в тепловом узле. Когда все трое выходили оттуда на улицу, с крыши упал, по формулировке Следственного комитета, *“ком снежно-ледяной массы”.*

*“Мы как раз вернулись на машине с дочерью из магазина, подъехали к подъезду,* — рассказывает **Людмила Андреевна Тисецкая**, которая живет в квартире №109. — *Смотрю, с крыши летит огромная такая глыба. А тут ребята из теплоузла выходят. Я им закричала, чтобы береглись, но было поздно... Она на голову мужчине рухнула. Удар был такой силы, что его отбросило на метр-два. Кровь у него отовсюду шла. Из носа, ушей и даже из глаз. Зрелище жуткое, до сих пор вздрагиваю. Мы с дочерью както помочь ему пытались, кровь вытирали платком, пока “скорая” не приехала...”*

Жильцы подъезда рассказывают, что потом за следы крови, которые попали на выложенные в интернете фото, лишили премии... уборщицу. Удивляются: “За что?” По поводу трагедии настроения разные. Кто-то считает, что начальство должно понести наказание, кто-то, напротив, говорит: “Мертвому уже все равно, а сейчас кому-то отдуваться придется... Весь лед не убережешь, где столько работников взять?”

Но все единодушно возмущены версией руководства ЖЭС, которую “основной” назвала директор **Лилия Борисовна Ермолаева**. По этой версии причиной трагедии стало остекление балконов, козырьки и отливы, где образуется наледь. Жильцов беспокоит, как бы в припадке административного рвения комунибудь не пришло в голову потребовать демонтировать балконное остекление. По их мнению, таким образом коммунальщики хотят снять с себя ответственность за ЧП.

Почему-то ни на улице Герасименко, ни в ее окрестностях я не заметил каких-либо ледяных наростов на отливах или козырьках остекленных балконов.

*“Конечно, им свои задницы прикрыть надо,* — говорит Людмила Тисецкая. — *Что за мода: чуть что — сразу народ винить. Какие козырьки, какие отливы, о чем вы говорите! Разве на них такая льдина может нарасти? Я же своими глазами все видела — с крыши она летела. И это не первый случай. Недавно возле первого подъезда такая же машину разбила”.*

Крыша многоэтажки не скатная, плоская, парапет высокий. А значит, по словам Лилии Ермолаевой, с крыши эта злополучная ледяная глыба упасть никак не могла. Людмила Андреевна Тисецкая утверждает, что она падала с лифтовой надстройки над подъездом.

Кстати, похожее ЧП произошло прошлой зимой в российском Волгограде, когда возле такой же многоэтажки погиб от удара ледяной глыбой 46-летний офицер, отец двоих детей. Там управляющая компания, которая обслуживала дом, прикрывалась тем, что сосулек на крыше не было, заявок от жильцов и рабочих компании на очистку кровли не поступало. Стокилограммовый кусок льда сорвался, видимо, с водоотлива одной из лоджий, а значит, по логике коммунальщиков, ответственность должны нести собственники квартиры. Следствие настаивало на том, что несчастный случай, в результате которого погиб человек, произошел из-за ненадлежащего исполнения обязанностей ответственным лицом. Однако позже суд его оправдал. А вдова офицера до сих пор безуспешно обивает пороги различных инстанций...



## Коллеги на похороны не пришли...

*“Даже если она, допустим, упала с чьего-то балкона...* — рассуждает бригадир могильщиков на кладбище, где похоронили Василия Алексеевича. — *Ну вы же разрешаете балконы остеклять, ставить козырьки и отливы, значит, должны за ними тоже следить, разве нет?”*

Впрочем, судя по всему, не это станет главной проблемой при разбирательстве дела. Директор ЖЭС №74 утверждает, что Василий Алексеевич вообще был не на работе, это не его участок, его туда никто не посылал и никакой заявки не было. “Как не было? — удивляюсь. — Я ведь разговаривал с жильцами, на двенадцатом этаже крышу талой водой заливало. Зачем же он тогда ходил туда?” Лилия Борисовна срывается: “Не знаю, чего он туда ходил! Что-то кому-то доказать хотел. Как вы меня достали все!..”

Кстати, в помещении ЖЭС, которому Василий Алексеевич отдал много лет жизни, почему-то нет никакого посвященного ему уголка с фотографией, как это обычно делается в таких случаях...

Старший сын Аборнева от первого брака, Алексей, рассказывает, что ему примерно то же самое говорил следователь, ведущий сейчас дело о гибели его отца. С той разницей, что заявка все же была. Но участок не его, и вообще, он чуть ли не от работы был отстранен. *“Боюсь, как бы они не переделали там все документы задним числом,* — высказывает свои опасения Алексей. — *Мне бы с коллегами отца переговорить, которые тогда с ним вместе были. Странно, что они на похороны не пришли...”*

Действительно, очень странно. Провожать в последний путь Василия Алексеевича пришла добрая сотня человек, а ближайших коллег, которые последними видели его живым, среди них не было.

Алексей также рассказал, как и чем помог им ЖЭС: *“Оплатили катафалк, автобус, четыре венка и одну корзину цветов. Это все. Могильщикам я уже сам платил. Подготовку тела к похоронам в морге тоже пришлось самому оплатить”.*



## «Такие трагедии — это тяжелая проверка на зрелость профсоюза»

Кто и в каком объеме получит ущерб в связи с гибелью Василия Алексеевича и получит ли вообще, пока не ясно. У Аборнева была вторая семья, брак с женой официально не оформлялся, двое детей от первого брака — совершеннолетние. Кстати, на похоронах присутствовали обе семьи.

Дать комментарий по поводу компенсации ущерба мы попросили юриста Свободного профсоюза металлистов **Владимира Лозовского:**

*“Смерть работников на производстве, к огромному сожалению, довольно частое явление в Беларуси... В случае гибели работника в первую очередь создается комиссия департамента по охране труда, куда обязательно включают представителя профсоюзной организации. Механизм расследования, механизм компенсации выплат близким покойного хорошо разработаны, но их осуществлением занимаются люди. И тут очень важна позиция профсоюзной организации, коллег по работе. Такие трагедии — это тяжелая проверка на зрелость профсоюза. Денежными выплатами занимаются органы государственного страхования, механизм прописан в президентском указе №530. Что касается компенсации со стороны нанимателя, той организации, где работал человек, все зависит от содержания коллективного договора. А там графы о гибели работника, о тяжелых травмах зачастую просто отсутствуют. И это опять-таки проверка профсоюзной организации: стоит она чего-нибудь или нет. В нормативных документах определяется круг лиц, которые могут претендовать на компенсацию в случае гибели близкого. Но гражданский брак, то, что по-протокольному зовется сожительством, — это непростой случай, здесь уже компетенция суда. И доказать свое родство иногда бывает непросто... Хочу еще сказать, что пропагандистская репутация нашей столицы как самого чистого города в мире соответствует действительности только летом, когда достаточно подмести бумажки и окурки. А зимой по многим улицам, в том числе в центре города, ходить иногда просто опасно. Сотни людей ломают руки, ноги и хребты... Еще и ледяные глыбы на голову сваливаются”.*



**Дмитрий ГАЛКО.**

АЎТАРЫНАК

# На іранскія машыны беларусы не параселі. Ці паедуць на кітайскіх?

*Легкавыя аўтамабілі беларуска-кітайскай зборкі Geely з’явяцца ў продажы ў лютым, паведаміў міністр прамысловасці Дзмітрый Кацярыніч. “Арыенціровачная цана на ўжо выраблёныя аўтамабілі — седан сярэдняга класа — складзе ў розніцу 12 тысяч 990 долараў”, — адзначыў ён.*

Выпуск новых аўто — другі праект, які рэалізуецца ў Беларусі. У 2008 годзе вытворчасць новых легкавых машын у Беларусі наладзіла іранская кампанія Samand. Пачатку вытворчасці папярэднічала вялікая рэкламная кампанія: маўляў, гэта будуць легкавушкі, якія задаволяць многіх беларусаў і па цане, і па якасці. Аднак на Samand беларусы не параселі. Непрыкметны дызайн, непахвальныя водгукі аб машыне выліліся ў тое, што ў 2010 годзе, напрыклад, толькі 24 чалавекі купілі гэтае аўто. Выручалі вытворцаў прадпрыемствы, якія, не выключана, абавязвалі купляць іранскую прадукцыю. У тым жа 2010 годзе больш за 300 Samand купілі кампаніі і прадпрыемствы. У любым выпадку гэта вельмі нізкі паказчык продажу.

Цікава, што на афіцыйным сайце кампаніі ўвогуле няма статыстыкі аб продажы машын, напрыклад, за 2011-ы, 2012 год. Апошняя навіна сайта датуецца 25 кастрычніка 2012 года і паведамляе, што з 1 верасня 2012 года стартаваў продаж аўтамабіляў Samand і Soren у Расійскую Федэрацыю.

Да ведама: сёння новы Samand каштуе 124,9 мільёна рублёў, альбо амаль 14,5 тысячы долараў.

Ці будзе запатрабаваны на рынку кітайскі Geely? Паводле слоў Кацярыніча, аб’явы пра пачатак продажу выклікалі вялікую цікавасць на рынку. “На прадпрыемствы паступіла шмат заявак на набыццё аўтамабіляў”, — паведаміў міністр прамысловасці. І ўдакладніў, што продаж аўтамабіляў не абмяжуецца беларускім рынкам. “Мы не будзем выплачваць утылізацыйны збор, на кампаненты, якія выкарыстоўваюцца для вытворчасці аўтамабіляў, не будзе выплачвацца мытная пошліна. Паглядзеўшы гэтыя варыянты, мы прыйшлі да высновы, што аўтамабіль будзе канкурэнтаздольны не толькі на нашым рынку, але і на рынку Расіі і Казахстана”, — паведаміў ён.

Дарэчы, па беларускіх дарогах кітайскія Geely ўжо бегаюць. У 2008-м у Беларусі было зарэгістравана 82 машыны маркі Geely, у 2009-м — 11 штук, у 2010-м — 3, а ў 2011-м і 2012 гадах ніводнай.

Што тычыцца коштаў, то сёння на рынку патрыманых аўто за 13—14,5 тысячы долараў можна купіць някепскі нямецкі, французскі альбо японскі ці карэйскі аўтамабіль. Напрыклад, Opel Astra 2008 года выпуску, Opel Zafira 2007-га альбо 2008 года, Peugeot 407 (2007-га года) і 308 (2008-га), Kia Seed 2009 года выпуску, Toyota Auris 2008-га, Volkswagen Golf 2008 года, а таксама Skoda Octavia 2008 года. І гэты спіс можна працягваць.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЧУЛІ?

## *Зямля пад Мінскам даражэе*

*22 лютага Мінскі райвыканкам правядзе чарговы аўкцыён.*

Галоўная асаблівасць таргоў: пачатковы кошт выстаўленых на аўкцыён зямельных участкаў для будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў у параўнанні з пачаткам 2012 года ў сярэднім вышэй, чым на 50 працэнтаў, а ў некаторых выпадках — у два-тры разы.

Напрыклад, за 14 сотак зямлі ў Бараўлянах, што пад Мінскам, сельсавет просіць 600 мільёнаў рублёў. Гэта пачатковая цана. Для параўнання: на пачатку 2012 года купіць такі ж участак у Бараўлянах на аўкцыёне можна было за 200 мільёнаў. А цяпер лот стартуе з кошту, які ў тры разы большы, чым год таму каштаваў увесь участак.

Такая ж сітуацыя і з зямельнымі надзеламі ў вёсцы Лапаровічы недалёка ад Мінскага мора. На аўкцыён 22 лютага выстаўлены тры ўчасткі па пачатковай цане ў 400, 450 і 500 мільёнаў рублёў. У параўнанні з пачаткам 2012 года стартавая цана вырасла ў тры разы.

Цікава, ці знойдуцца пакупнікі на такі дарагі тавар? Напрыклад, на аўкцыёне 18 студзеня жадаючых купіць два ўчасткі ў Заслаўі за 226 і 235 мільёнаў рублёў не знайшлося. Хаця да ўчасткаў былі падведзены газ, электрычнасць і водаправод, на што траціцца ўжо не прыйшлося.

ЛІЧБА ДНЯ

## *Больш за 4 тысячы кінутых аўтамабіляў*

*Столькі аўтахламу было выяўлена ў сталічных дварах за мінулы год.*

Большасць з іх стаяла ў дварах шматпавярховак, некаторыя былі кінутыя ўздоўж праезнай часткі вуліц, на паркоўках каля гандлёвых аб’ектаў.

Уладальнікам жалеззя разаслалі паведамленні аб тым, што транспартны сродак неабходна прывесці ў належны выгляд ці ўтылізаваць. Лісты падзейнічалі на 3199 чалавек. Яны альбо прывялі тэхніку ў парадак (такіх аказалася большасць), альбо самастойна пазбавіліся іх.

ВОСТРАЯ ПРАБЛЕМА!

# Аднаўляльныя крыніцы энергіі — вось наш паратунак!

Ёсць прагнозы, што пры існуючым узроўні спажывання разведаных запасаў паліва хопіць не больш як на 60 гадоў, ядзернага паліва — яшчэ меней. Уран, што здабываецца сёння ў Расіі, складае 20% ад усяго ўрану, што спажываецца там. Розніца пакуль што пакрываецца за кошт савецкіх запасаў, якія ўжо блізкія да вычарпання.

Ацэньваючы перспектывы развіцця сусветнай энергетыкі, Нобелеўскі лаўрэат Жарэс Алфёраў, выступаючы 19 верасня 2012 года ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, сказаў: “Да канца бягучага стагоддзя, безумоўна, энергетычная праблема чалавецтва будзе вырашана на аснове выкарыстання сонечнай энергіі. А ядзерная энергетыка застанецца ва ўспамінах”. Нельга не прыслухацца да слоў сусветна вядомага вучонага, асабліва тым, хто з упартасцю, вартай лепшага прымянення, рухае наперад рэалізацыю праекта Астравецкай АЭС, замест таго каб спрыяць развіццю ў Беларусі аднаўляльных крыніц энергіі (АКЭ).



## Навуковая ацэнка праблемы

Адносная стабільнасць тэмпературы Зямлі сведчыць аб пэўным балансе энергіі, якая прыходзіць да Зямлі з космасу і адыходзіць ад яе ў касмічную прастору. Асноўную частку энергіі, якая паступае на Зямлю, складае сонечнае выпраменьванне. Паток гэтай энергіі ацэньваецца ў 173.000 ТВт ($173.000 \cdot 10^{12}$ Вт). Сумарная ўстаноўленая магутнасць усіх электрастанцый свету роўная прыкладна $3 \cdot 10^{12}$ Вт, што амаль у 60 тысяч разоў меней.

Прыкладна 2% (3600 ТВт) паступаючай на Зямлю сонечнай энергіі пераўтвараецца ў энергію вятроў. З іх 1/3 (1200 ТВт) размяркоўваецца ў ніжніх слаях атмасферы на вышыні да 1 кіламетра.

Акрамя сонечнага выпраменьвання на Зямлю паступае энергія, якая ўзнікае ў выніку гравітацыйнага ўплыву переважна Месяца. Дзякуючы гэтаму ўплыву ўтвараецца энергія прыліваў. Сярэдняя магутнасць патоку гэтай энергіі складае каля 3 ТВт.

Унутранай крыніцай энергіі Зямлі з’яўляецца цеплавая энергія ад рыдыеактыўнага распаду некаторых хімічных элементаў унутры зямнога ядра (32 ТВт).

Каля 52.000 ТВт (30% сонечнага выпраменьвання, што паступае) адбіваецца атмасферай і паверхняй Зямлі назад у космас, што вызначае альбеда (велічыню, якая характарызуе адбівальную здольнасць) Зямлі. Астатняя энергія пранікае да паверхні Зямлі, пераўтвараецца ў цяпло і перавыпраменьваецца ў касмічную прастору ў выглядзе доўгахвалевага інфрачырвонага выпраменьвання.

Тэмпы спажывання энергіі чалавекам на працягу вякоў пастаянна ўзрастаюць. У старажытныя часы чалавек атрымліваў энергію выключна праз ежу, спажываючы ў дзень прыкладна 2000 ккал, што адпавядае магутнасці 100 Вт. Значна пазней, калі людзі сталі карыстацца агнём, выкарыстанне энергіі павялічылася прыкладна да 300 Вт у дзень на аднаго чалавека. К 1200 году магутнасць энергіі, што выкарыстоўвалася чалавекам, павялічылася да 2 кВт у дзень. Гэта было звязана з распрацоўкай новых тэхналогій вядзення сельскай гаспадаркі, з выкарыстаннем камінаў для абагрэву жылых памяшканняў у будынках, з актыўным выкарыстаннем энергіі ветру і вады. Спажыванне энергіі чалавекам стала расці высокімі тэмпамі.

Калі да 2050 года кожны з 11 млрд жыхароў Зямлі будзе спажываць энергіі (у сэнсе ўстаноўленай магутнасці) на ўзроўні сучаснага жыхара ЗША (11 кВт), то агульнае энергаспажыванне ўзрасце да 122 ТВт, што ў 15 разоў болей сучаснага энергаспажывання (каля 8 ТВт).

Неабходны рост вытворчасці энергіі магчымы выключна пры выкарыстанні інавацыйных тэхналогій і больш эфектыўнага пераўтварэння энергіі. Па навуковых ацэнках рэсурсы ўсіх аднаўляльных крыніц энергіі ў шмат разоў пераўзыходзяць сённяшні і прагназуемы ўзроўні энергаспажывання.

Заўважу: аднаўляльныя крыніцы энергіі распаўсюджаны па тэрыторыі зямнога шара адносна раўнамерна, не знаходзяцца ў манапольным валоданні абмежаванага кола краін і таму разглядаюцца як крыніцы энергіі, выкарыстанне якіх спрыяе павышэнню энергетычнай бяспекі многіх рэгіёнаў, зніжэнню залежнасці ад імпарту энергетычных рэсурсаў і, адпаведна, умацаванню палітычнай стабільнасці ў свеце.

Відавочна, што, акрамя аднаўляльных крыніц энергіі, у людзей няма іншай альтэрнатывы надзейнага і невычарпальнага энергазабеспячэння. Але пры існуючым узроўні тэхналагічнага развіцця і кан’юнктуры, якая склалася на сусветных энергетычных рынках, такія відавочныя перавагі АКЭ, як невычарпальнасць, адсутнасць выдаткаў на паліва і экалагічная бяспека, пакуль не могуць пераважыць добра адпрацаваныя, простыя і больш танныя метады атрымання энергіі з традыцыйнага вуглевадароднага паліва.

У такіх умовах большасць краін ужо ўсвядоміла неабходнасць дзяржаўнага рэгулявання развіцця АКЭ. Калі ў 1980 — на пачатку 1990-х гадоў гэтае пытанне практычна не разглядалася на дзяржаўным узроўні, то ў 1998—2005 гадах многія краіны пачалі прымаць захады па распрацоўцы цэлай сістэмы мер па падтрымцы АКЭ. Перыяд з 2005-га па 2011 год стаўся асабліва выніковым. Так, колькасць краін, якія рэалізуюць у той ці іншай меры палітыку падтрымкі АКЭ, павялічылася з 55 у 2005 годзе да 118 на пачатку 2011 года.

Урады многіх краін распрацоўваюць сістэмы стымулаў і гарантый, якія маглі б забяспечыць належныя ўмовы для развіцця аднаўляльных крыніц энергіі.

Варта адзначыць, што асабліва эфектыўным з’яўляецца выкарыстанне не асобных стымулаў, а іх сістэм, напрыклад, увядзенне падатковых ільгот сумесна з запускам спецыяльнай адукацыйнай праграмы.

Палітыка дзяржаў, накіраваная на стымуляванне вытворчасці і спажывання энергіі АКЭ, ужо прывяла да значных вынікаў.

Напрыклад, мэтавыя паказчыкі 2010 года ў Еўрасаюзе былі значна перавыкананы. Устаноўленая магутнасць ветраэнергетыкі склала 86 тыс. МВт замест запланаванай магутнасці 40 тыс. МВт, сонечнай фотаэлектрычнай энергетыкі — 29 тыс. МВт замест запланаваных 3 тыс. МВт. Пры захаванні такога тэмпу росту Еўрасаюз ужо да 2020 года зможа пераўзысці запланаваную долю АКЭ 20% у агульным аб’ёме энергіі, што выпрацоўваецца.

На вялікі жаль, у Беларусі дзяржаўная падтрымка развіцця аднаўляльных крыніц энергіі недастатковая. Акрамя “зялёных тарыфаў”, устаноўленых пастановай Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 2011 г. №100, для вытворцаў энергіі, выраблеемай АКЭ, іншых мер дзяржаўнай падтрымкі не прадугледжана. Ды і тая падтрымка (каэфіцыент 1,3 на продаж энергіі ў першыя 10 гадоў з дня ўводу ў эксплуатацыю АКЭ, у хуткім часе ператвараецца для вытворцаў у страты, паколькі ў наступныя 10 гадоў эксплуатацыі каэфіцыент 1,3, паводле той жа пастановы, пераўтвараецца ў 0,85).

Разлікі паказваюць, што тэхнічна магчымы і эканамічна мэтазгодны патэнцыял найбольш перспектыўных ва ўмовах Беларусі аднаўляльных крыніц энергіі складае больш за 75 млрд кВт·г/год, што амаль у два разы перавышае аб’ём спажывання электраэнергіі ў краіне (каля 38 млрд кВт·г/год). Відавочна, што патэнцыял аднаўляльных крыніц энергіі ў Беларусі дастатковы для таго, каб ужо ў хуткім часе значна скараціць аб’ёмы выкарыстання традыцыйнага вуглевадароднага паліва, імпартуемага з Расіі па цэнах, што пастаянна павялічваюцца і непазбежна набліжаюцца да сусветнага ўзроўню, а ў перспектыве — поўнасцю забяспечыць эканоміку краіны надзейнай і невычарпальнай энергіяй. У Маскве гэта добра разумеюць, таму імкнуцца як мага хутчэй узяць пад свой кантроль беларускую энергасістэму, каб надзейна прывязаць яе да расійскіх энерганосьбітаў.

У якім жа стане знаходзяцца сёння ў нашай краіне гэтыя крыніцы аднаўляльнай энергіі?

**Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання, сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ.**

*(Працяг у наступным нумары.)*

ВАС ЦІКАВІЦЬ?

## *Недавер...*

*Часта можна пачуць, што выбары ў нас выдатныя і ўлада цалкам легітымная. Але, наколькі я разумею, легітымнасць — гэта не пасведчанне прэзідэнта ці дэпутата, якое выдае старшыня Цэнтрвыбаркама. І нават не ўказ аб прызначэнні на тую ці іншую пасаду. Легітымнасць гэта давер людзей. Таму мяне цікавіць: ці ёсць нейкія незалежныя апытанні, якія б сведчылі аб узроўні даверу беларусаў розным дзяржаўным інстытутам?*

**Міхаіл Валькоўскі, г.Мінск.**

Апошняе апытанне Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, які зарэгістраваны ў Вільнюсе, сведчыць пра тое, што ўзровень даверу беларусаў дзяржаўным інстытутам вельмі і вельмі невысокі. Прычым за два апошнія гады ён паменшыўся. І значна.

“Рэкардсменам” па падзенні даверу з’яўляецца ўрад.

| | Снежань 2010 г. | Снежань 2012 г. | +/- |
|---|---|---|---|
| Урад | 51,6 | 35,0 | -16,6 |
| Прэзідэнт | 55,0 | 39,1 | -15,9 |
| Дзяржаўныя СМІ | 52,9 | 38,1 | -14,8 |
| Цэнтральная выбарчая камісія | 47,5 | 32,9 | -14,6 |
| Мясцовыя выканаўчыя камітэты | 43,5 | 30,5 | -13 |
| Праўладныя палітычныя партыі | 33,8 | 23,7 | -10,1 |
| Мясцовыя Саветы дэпутатаў | 41,2 | 31,5 | -9,7 |
| Пракуратура | 47,3 | 37,8 | -9,5 |
| Суды | 49,0 | 40,8 | -8,2 |
| Міліцыя | 45,6 | 37,4 | -8,2 |
| КДБ | 43,2 | 37,2 | -6,0 |
| Нацыянальны сход | 35,7 | 33,1 | -2,6 |
| Афіцыйныя прафсаюзы | 35,4 | 34,1 | -1,3 |
| Армія | 53,6 | 52,8 | -0,8 |

Такім чынам, з дзяржаўных інстытутаў найбольшым даверам грамадства карыстаецца армія.

Эксперты НІСЭПД каментуюць гэтыя вынікі так: “Калі давер да персаніфікатара ўлады апускаецца ніжэй за крытычны ўзровень, наступае распад дзяржавы, паколькі легітымнасці з пункту гледжання насельніцтва дзяржаўныя інстытуты не маюць. Таму ў крытычны момант і не знаходзіцца ў дзяржавы абаронцаў. Так было ў 1917 годзе, так было ў 1991 годзе”.

**Дар’я СОЛТАН.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
5 ЛЮТАГА 2013 г.

НОВАЯ ТЭМА

# Адрачэнне ад спрадвечных запаветаў.

## *Страшэнную згубу яно нясе Беларусі*

Развагі аб будучыні нашай краіны, якую давядзецца адбудоўваць сённяшнім дзецям, пачну вытрымкай з трэцяга тома "Живописной России" 1882 года выдання, які цалкам прысвечаны апісанню гісторыі, побыту і эканамічнага стану Беларусі таго часу.

Аўтар нарыса А.К.Кіркова *(напісанне захоўваецца цалкам)* сцвярджаў: *"Белорусская беспечность кажущаяся: в сущности это — самый трудолюбивый человек, которого скудная почва и природа-мачеха выучила беспримерному терпению, безграничной готовности ко всякой работе. Надо видеть в то же время, сколько холи, баловства и послаблений там чужому человеку или сиротке, оставшемуся без отца и матери. Сирот стараются наперерыв друг перед другом взять в семью "примнем" или "примаком" без разбору будет-ли то девочка или "хлопчик". Сироты растут всем довольные и обеспеченные, и еще не было примера, чтобы примак или примачка оставили хату и хозяйство своего приемщика; благодарность — одно из живых и явных чувств в этом скрытном и замкнутом в себе народе".*

Менш як за паўтара стагоддзя, што прайшлі з часу выдання "Живописной России", карэнным чынам змяніліся менталітэт, побыт і заняткі беларусаў. Але, на жаль, лепшымі, больш спагадлівымі і згуртаванымі яны не сталі.

Мая памяць захоўвае ўсё больш-менш значныя падзеі з гісторыі роднай вёскі Барталамееўка Веткаўскага раёна з першага пасляваеннага года. Спынюся толькі на адной дэталі агульнаграмадскіх клопатаў — на лёсе дзяцей, якія па нейкіх абставінах засталіся без бацькоў.

Сёння цяжка ўявіць, што ў той час, калі практычна ва ўсе хаты прыйшлі паведамленні пра гібель іх гаспадароў і мужчын прызыўнога ўзросту, у нас не было дзяцей-сірот і выхаванцаў дзіцячых дамоў.

Без бацькі, які невядома дзе і калі напаткаў смерць, але пры жывой маці я, мой брат і чатыры сястры не лічылі сябе сіротамі. Ужо зусім нямоглай матуля сказала: "Я шчаслівая ўжо таму, што не страціла ніводнага з тых, каго нарадзіла".

У майго сябра Пятра Папкова, бацька якога таксама не вярнуўся з вайны, а маці ў час нарыхтоўкі подсцілу для ўласнай каровы на замерзлым ужо балоце правалілася ў багну, моцна прастудзілася і неўзабаве памерла, абставіны склаліся цяжэй, але і ён не лічыў сябе сіроткай — жыў у роднай цёткі Ганусі, хата якой стаяла побач з нашым падворкам. Разам з Пятром мы хадзілі ў школу, летам пасвілі цялятак, нарыхтоўвалі для іх траву, ганялі мяч з ануч на школьным стадыёне, плёхаліся ў рацэ Беседзь — у нас не было падстаў і часу скардзіцца на свой лёс і нягоды. У самыя галодныя гады мы мелі забелены смятанкай боршч са шчаўя, звараную ў печы бульбу з салёнымі ці свежымі агуркамі ўпрыкуску, карысталіся навакольнымі прыволлямі, падарожжы па якіх чаргаваліся з ваджэннем коней па калгасных бульбяных гонях вясной, перавозкай жытнёвых і ячменных снапоў з таго ж абагуленага поля ў час жніва.

А як прыхінулася дзяржава да лёсу Пятра?

Пасля смерці маці мой сябра-аднагодак заставаўся ў асірацелай хаціне са старэйшым, яшчэ непаўналетнім братам Васілём, які пачаў працаваць у паляводчай брыгадзе калгаса "Барацьбіт", па сутнасці замяніўшы маці. Ён і яго сябра Васіль Ермакоў, пад наглядам якога пасля гібелі бацькі на вайне і смерці маці засталіся дзве малодшыя сястры і брацік, каб выжыць у складанай сітуацыі, яшчэ да прызыву ў армію прывялі ў свае хаты такіх жа юных, як самі, жонак.

Перад веснавой пасяўной калгасны брыгадзір накіраваў Васілёў у райцэнтр па насенную пшаніцу. На зваротным шляху па ўхабістай пясчанай дарозе паламаліся калёсы на возе Васіля Папкова, пашкодзіліся мяшкі з зернем. Васілі згрэблі змешаную з зямлёй пшаніцу, але яна, павялічыўшыся ў аб'ёме, не змясцілася ў пашкоджаную тару — засталося вядро пясочна-зернявой сумесі.

"Прасеем, прамыем, а жонкі навараць кашы", — вырашылі ездакі і занеслі вядро са смеццем у двор Васіля Папкова.

"Зладзеі! Мяшкі парвалі знарок!" — у сваю чаргу вырашыла калгаснае праўленне і выклікала следчых.

Недахоп зерня выявіўся адразу. Праз пару дзён Васілёў паклікаў суд і вынес страшэнны вырак — па восем гадоў зняволення з высылкай за межы Беларусі. Васілі апынуліся на вугальных распрацоўках Кемераўскай вобласці. Адзінага брацікa Васіля Папкова Пецю прыціснула да грудзей і прынесла дамоў родная цётка Ганусяю. Сёстраў і брата Васіля Ермакова прыгарнулі родзічы з нашай вёскі і суседняй Петухоўкі. Пра афармленне дзяцей у Веткаўскі ці Свяцілавіцкі дзіцячыя дамы ніхто нават гамонкі не вёў.

"Што вы, людцы, родную крывіначку ды ў чужыя рукі аддаваць!" — не раз чулі суседзі і я ад Пецькавай цёткі Ганусі, якая жыла са сваім ужо старым бацькам Аляксандрам Андрушыным.

Дзед, як адмысловы цясляр, вучыў Пецьку трымаць у руках сякеру, прыносіў яму з агарода першыя агуркі і яблыкі. Цётка Гануся абшывала, абмывала пляменніка, за апошнія рублі купляла ў вясковай краме цукеркі-падушачкі, сачыла за вучобай у школе і паводзінамі на вуліцы. Такое ж месца, ролю і ўвагу ў асяроддзі родзічаў набылі дзве сястры і брат Васіля Ермакова.

Дзяды, бабулі, цёткі і дзядзькі прынялі да сябе асірацелых дзяцей зусім не з-за спадзявання, як пісала "Живописная Россия", што "из мальчика вырастет молодой работник со свежими силами, а девочка возьмет себе в "приставни", т.е. в ту же хату хозяином и таким же бесплатным работником". Не, яны кіраваліся прыроджаным інстынктам захавання свайго роду і яго традыцый. Гэта стаяла вышэй за ўсё астатняе. З другога боку, у той час ужо не існавала прыватнай уласнасці на зямлю, якая патрабавала прытоку свежай сілы ў сем'і, бо дзейнічалі калгасы, у якіх усё было калгаснае, ці, як казалі ў нашай вёсцы, агульнанічыйнае. А вось людзі і дзеці не хацелі быць нічыйнымі. Пётр Папкоў адразу пасля атрымання атэстата сталасці паехаў у горад Кісялёўск Кемераўскай вобласці, дзе брат Васіль, адбыўшы тэрмін турэмнага зняволення, атрымаў правы шафёра, працаваў на транспарціроўцы вугалю да чыгункі, і паступіў там у Горны інстытут. Знайшлі сваё вартае месца ў жыцці, але за межамі роднай вёскі, таксама дзве сястры і брат Васіля Ермакова, смерць якога ў турме аплаквала ўся вёска. Менавіта на той час прыпадае кульмінацыя знікнення згуртаванага сялянскага роду. Вынік навідавоку: у сённяшніх сельгаспрадпрыемствах не хапае рабочых рук, спецыялістаў рознага профілю, няма з каго выбіраць кіраўнікоў гаспадарак і нават камплектаваць раённыя штаты аграрнай галіны. Дзеці-сіроты ўвезлі з сабою ў гарады будучыню вёскі, захаваўшы толькі памяць пра самаахвярнасць сваіх выратавальнікаў, да скону дзён называючы іх мамамі, татамі, бабулямі і дзядулямі.

Пасля расстання з Пятром, быццам па наканаванні лёсу, усё маё далейшае жыццё па-ранейшаму прайшло ў кантактах з дзецьмі-сіротамі. Калі пачаў працаваць у веткаўскай райгазеце, дык на кватэру ўладкаваўся ў хату, якая стаяла побач з дзіцячым домам. Ажаніўся, пераехаў у Гомель працаваць у маладзёжнай "Чырвонай змене", а жонка ўладкавалася ў школу-інтэрнат, дзе выкладала мову і літаратуру, у вызначаныя раскладам дні ўкладвала ў ложкі, будзіла на сняданак і выпраўляла на заняткі дзяцей-сіротак. Я быў у курсе ўсіх спраў дзіцячай установы, перыядычна наведваў яе вучэбныя класы, размаўляў з хлопчыкамі і дзяўчынкамі. Апошнія два дзесяцігоддзі, што мінулі пасля страты радзімы з-за наступстваў катастрофы на ЧАЭС, апякаю хату і агарод, якія ў якасці "дачнага" ўладання набыў у вёсцы Лагуны Добрушскага раёна, і знаходжуся па суседстве з... дзіцячым домам сямейнага тыпу Алы Уладзіміраўны Хахловай, зноўку наглядаю за дзецьмі-сіротамі, але ўжо пры жывых бацьках, дзядулях і бабулях.

"Што з намі сталася?" — вось тое пытанне, якое хвалюе мяне і на якое, на жаль, пакуль няма адказу.

Дзеці-сіроты былі заўсёды, усюды і мусяць быць у далейшым — ад паваротаў лёсу нікому нікуды не збегчы і не схавацца.

І усё ж...

Па маіх меркаваннях, многія страты ў чалавечай годнасці і еднасці пачаліся пасля кастрычніцкага перавароту, а вяршыня іх прыпадае на ўрачыстае абвяшчэнне кампартыяй, што цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме, а клопаты аб дзецях возьме на сябе першая ў свеце камуністычная краіна. Сумніўнымі лозунгамі і заклікамі КПСС будавала самую



справядлівую ў свеце дзяржаву, а на самай справе ваявала з чалавечай супольнасцю і годнасцю яе грамадзян. Вось прыклады. У сельскай мясцовасці замест калгасаў ствараюцца саўгасы, кожны асобны з якіх займае амаль па трэці тэрыторыі раённых адміністрацыйных адзінак. Прыязджаю з Мінска на летнія студэнцкія вакацыі, выходжу на агарод і бачу, што на той яго частцы, дзе калісьці раслі каноплі (заўважу ў дужках — сённяшні наркотык), капуста, агуркі, бульба, буяе быльнік. "Будуем камунізм, дык навошта абцяжарваць сялян лішняй работай на лішніх сотках", — са слязамі на вачах паўтарыла маці рашэнне самай вышэйшай улады гіганцкай на той час краіны. Пайшоў з касою на балоцістую мясціну "Торф", дзе калгас і саўгас ніколі не нарыхтоўвалі кармоў, а сусед-аб'ездчык Аляксандр Жукаў вінавата кажа: "Коля, вяртайся дамоў, мне дадзена каманда нікога сюды не дапускаць".

Праўда, у чыіхсьці галовах тады ўсё-такі наступіла прасвятленне: скарочаныя агароды вярнулі назад, бо на "адразанцы" немагчыма было пускаць тэхніку, вяскоўцы атрымалі дазвол збіваць траву на балотах і ўздоўж канаў, а гіганцкія саўгасы вярнулі ў межы ранейшых калгасаў.

На жаль, на гэтым наступ на адвечныя сялянскія традыцыі не скончыўся. Пасля катастрофы на ЧАЭС, калі ўзнікла неабходнасць узводзіць пасёлкі для перасяленцаў, новыя жылыя зоны былі спраектаваны ў вёсках пасярод вякамі існаваўшых вуліц з традыцыйнымі гародамі. Там, дзе жыллё ўзводзілася на вольных ад пабудоў месцах, пад дамы і агароды адводзіліся плошчы, на якіх з цяжкасцю можна было пасадзіць па дзве-тры яблыні. У апошнія гады чарговая навала прыйшла са стварэннем аграгарадкоў. Дзе трэба і дзе не трэба пачалі аб'ядноўвацца сельгаспрадпрыемствы, нішчыцца многія сельскія населеныя пункты шляхам пазбаўлення месцаў работы для інтэлегенцыі ў асобе спецыялістаў сельскай гаспадаркі, педагогаў, культработнікаў, якія, як правіла, з'яўляюцца падмуркам падтрымання і захавання лепшых традыцый хрысціянскага кшталту.

Эканоміць трэба заўсёды і ўсюды, толькі, прабачце, не на духоўным узбагачэнні чалавека і не шляхам скрыжоўвання быка з індыкам!

Дапускаю, што каля двух стагоддзяў таму ў вёсках не было абяздоленых дзяцей часткова таму, што сяляне, якія складалі асноўную колькасць насельніцтва, мелі патрэбу ў дадатковых рабочых руках для апрацоўкі зямлі. Пасля вайны 1941—1945 гадоў немагчыма было абысціся без дзіцячых дамоў, бо ліхалецце забрала мільёны жыццяў бацькоў і мацярок. Але ж, дзякуй Усявышняму, грамадства, калі не лічыць катастрофу на ЧАЭС, даўно размяняла другую палову веку без крутых узрушэнняў.

Наперакор гэтаму адбываюцца дзівы дзівосныя. Менавіта ў мірны і хлебны час павялічваецца колькасць дзяцей без бацькоў, цёплых і ўтульных куткоў. Пры жыцці родных і сваякоў краіна вымушана ствараць дамы сямейнага тыпу і нават пагаджацца на ўсынаўленне малалетніх беларусаў грамадзянамі замежных краін, у тым ліку сваіх былых ворагаў па ладзе.

І, паўтаруся, усё таму, што камуністычная ідэя перакрэсліла спрадвечны запавет, згодна з якім чалавек за сваё жыццё абавязаны пабудаваць уласны дом, пасадзіць сад і вырасціць дзіця.

Замест будаўніцтва ўласнага жылля ў пасляваенны час дзяржава прынялася ўзводзіць для сялян за іх жа кошт адчужаныя сямейныя шпакоўні. Пачыналася гэта са з'яўлення першых пяціпавярховых гмахаў на меліяраваных землях, вакол якіх хлебаробы страцілі магчымасць закладваць нават градкі, а завяршаецца аграгарадкамі, якія ў адным месцы ствараюць перанасяленне, скарачаюць магчымасці вядзення асабістых агародаў, міні-фермаў, а ў другім выклікаюць знікненне яшчэ даволі значных населеных пунктаў за кошт закрыцця школ, устаноў культуры, лазняў, гандлёвых кропак, аддзяленняў сувязі.

У маёй цяперашняй вёсцы Лагуны, дзе не так даўно быў узведзены пасёлак для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны на 50 катэджаў, страцілі сваіх гаспадароў і пастаяльцаў цудоўны двухпавярховы будынак дзіцячага садка, пральня з лазняй, аддзяленне сувязі, прыходзіць у запусценне цудоўны будынак яшчэ царкоўна-прыходскай школы.

Ды што Лагуны! Пад лязо новай "перабудовы" без зазірання ў святцы трапіла вялізная суседняя вёска Насовічы, якая ў свой час з'яўлялася аднайменным раённым цэнтрам, а на маёй памяці ўваходзіла ў спіс перадавых племгаспадарак Беларусі, і пра якую за час работы ў рэспубліканскай "Сельской газете" ("Белорусской ниве") я надрукаваў дзясяткі артыкулаў, падрыхтаваў брашуру за подпісам даяркі, Героя Сацыялістычнай Працы Надзеі Трафімовіч аб агульнагаспадарчых і асабістых вытворчых дасягненнях. Пару гадоў таму Насовічы разам з акаляючымі вёскамі і пасёлкамі сталі ўсяго толькі вытворчым падраздзяленнем узбуйненай гаспадаркі з цэнтрам у вёсцы Чырвоная Буда, якая размешчана на вялікай адлегласці і нічым адметным раней не вызначалася. Затое ў Насовічах пайшлі на згортванне справы з вырошчваннем племяннога маладняку буйной рагатай жывёлы і свіней. Сюды трэба дадаць і тое, што да катастрофы на ЧАЭС у той жа вёсцы Лагуны дзейнічала авечкагадоўчая племянная ферма, у пошуках лепшага заробку асобныя маладыя людзі пераязджалі ў яе з... Чырвонай Буды.

Вяршыняй і згусткам усіх недарэчнасцяў, а па-савецку "перабудоў на маршы", якія, дарэчы, няспынна вядуцца з часоў калектывізацыі, стала адчужэнне сялян ад зямлі і з'яўленне дзяцей без сямейнага прытулку пры жывых бацьках. Здаецца, што не за далёкімі і высокімі гарамі таксама той час, калі і яны, гэтыя здаровыя парасткі, у вырашэнні пытанняў безбацькоўства могуць засохнуць.

На адрас тых, хто даў сіротам цёплы і ласкавы прытулак, выратаваў іх ад згубы, часта чую: "А чаму ім не гуляць з малымі ў лялькі, калі дзяржава дае грошы, захоўвае працоўны стаж? Хіба за тое, што чужыя хлопчыкі і дзяўчынкі працуюць на іх сем'і". Разважаю так: тым бы "добразычліўцам" лепш і карысней было б пакаштаваць слодыч гаспадароў дамоў сямейнага тыпу і неадкладна раскрыць зёлкі ды кумекаць, чаму іх уласныя, суседскія сыны з дочкамі не выпускаюць з рота вінных сосак і цыгарэт. У тым жа, што прыёмныя хлопчыкі і дзяўчынкі часам удзельнічаюць у абсталяванні месцаў для сваіх гульняў, падбіраюць на агародах за плугам бульбу, ці, скажам, заносяць з дрывотніка сасновыя паленні ва ўласную лазню, нічога асуджальнага няма. Наадварот, сіроткі, як калісьці ўсе вясковыя дзеці школьнага ўзросту, проста абавязаны вучыцца працаваць і наводзіць бляск на зямлі, у двары, каму б яны ні належалі — дзяржаўнаму ці самастойнаму гаспадарніку.

Хто "шкадуе" прыёмных дзяцей? Па маіх назіраннях, той, хто замест бульбы і капусты на сваім агародзе культывуе, як у адселенай чарнобыльскай зоне, самасеі бярозы, таполі і рознага кустоўя для чалавекаў-ваўкалакаў, якія знаходзяць у іх схованкі для пахмелля з закуссю магазінным агуркам, бо з-за захаплення "самапалам" і "чарнілам" не знаходзяць час ускапаць і засадзіць сваю градку. Парадаксальна, але сёння гэта ў аднолькавай ступені тычыцца як мужчын, так і жанчын.

У адносінах да гаспадароў дамоў сямейнага тыпу прасочваецца звычайная зайздрасць, падобная той, якая ў гады разгорнутага будаўніцтва камунізму ўзнікала ў адносінах да тых, хто ўдумліва вядзе ўласны падворак, а сёння, адасобіўшыся ад калектыўнага нічыйнага, займеў асабістую справу, годна жыве, пастаўляючы прадукцыю вёскі вялікім і малым гарадам. Хто не ведае, што папярэднікаў сённяшніх фермераў, самых удумлівых гаспадарнікаў, так званых кулакоў камуністычная ўлада вынішчыла ў Сібіры, а тагачасныя зайздроснікі ў якасці свайго крэда тады выбралі правіла: "Вып'ем зранку, і ўвесь дзень будзем вольнымі". Менавіта такія прадстаўнікі найноўшага пакалення і з'яўляюцца "пастаўшчыкамі" дзетак-сіротак. Яны ці іншыя больш напрактыкаваныя лайдакі-прайдзісветы цёмнай ноччу леташняга года са двара маёй суседкі, маці прыёмных дзяцей Алы Уладзіміраўны Хахловай, пры наяўнасці двух вартаўнікоў-сабак вывелі рабочага каня, сляды якога не адшуканы і ніколі ўжо не адшукаюцца...

Змагацца з алкагалізмам, іншымі праявамі бездухоўнасці толькі шляхам дэкрэтаў і забарон — значыць працягваць спатыкацца на струхлелых карэннях, якія псуюць дарогу і замінаюць размераным крокам па стрыжнявой дарозе дабрабыту і згуртаванай супольнасці.

Дамы сямейнага тыпу, на мой погляд, з'яўляюцца прыступкай вяртання беларусаў да забытай ужо традыцыі, калі, як пісала "Живописная Россия", яе тэрыторыя не ведала сіроцтва. Мая спагадлівая да дзяцей-сірот суседка ў эканамічна цяжкі час за кошт заробкаў у былым племзаводзе "Насовічы", вядзення пашыранай прысядзібнай гаспадаркі і жывучы ў калектыўным доме-шпакоўні пад адным дахам з людзьмі амаральных паводзін, побач з той жа "шпакоўняй" на здзіў усім аднавяскоўцам узвяла ўласны дом у двух узроўнях, памяшканні для жывёлы і птушкі, лазню, гараж для таннага легкавіка, на якім цяпер па патрэбах дзяцей-сірот ездзіць у Добруш і Гомель. Разам з мужам Леанідам яна вырасціла свой сад, выгадавала дзяўчынак-сірот, некаторыя з якіх ужо маюць сем'і і разам са сваімі дзецьмі наведваюць прыёмную матулю. Лічу не лішнім нагадаць, што прыёмнай сям'і прапаноўвалася заключыць дамову на ўзвядзенне новага асабняка за кошт дзяржавы, але яна катэгарычна адмовілася, заявіўшы, што ў яе ёсць уласнае жыллё і родавыя парадкі-завядзёнкі — не квапіцца на тое, што асабіста табе не належыць. Жанчына марыць аб адным: каб у вёску хутчэй вярнулася тое, што Беларусь калісьці ўжо зведала, — пад чужую апеку павінны трапляць толькі тыя хлопчыкі і дзяўчынкі, якія страцілі бацькоў выключна з прычыны трагічных здарэнняў і вялікіх узрушэнняў.

Змагацца з п'янствам і алкагалізмам толькі сіламі дзяржавы і пераважна метадамі забароны — значыць ісці па дарозе з аднабаковым рухам. Да лайдакоў і п'яніц патрабуецца праяўленне пагарды і нецярпімасці перш за ўсё з боку ўсяго грамадства.

Агульнавядома і агульнапрызнана, што не генсекі і прэзідэнты, не пастановы і дэкрэты твораць цуды ў навукова-тэхнічным прагрэсе, пашырэнні і росквіце маральнасці. Іх адкрывае і ўсталёўвае агульная супольнасць на чале з творцамі, якія, між іншым, часцей за ўсё знаходзяцца на супрацьлеглым полюсе ад кіруючай і накіроўваючай эліты. У пытанні, узнятым мною, нас выратуе толькі людская памяць і параўнанне з тым, якімі мы былі раней і якімі робімся ці ўжо сталі. Тэмпература ў грамадстве застыла на рысе абыякавасці да ўсяго і ўсіх. Большасць маленькіх сямейных "дзяржавак" жыве адасоблена, прызнае толькі асабістыя прынцыпы і парадкі. Верхатура знешне шукае паратунку ў вяртанні людзей да здаровага ладу жыцця, запаветаў праваслаўнай царквы, а па сутнасці, разам з той жа царквой прапагандуе заганы.

Праваслаўная царква працягвае ўшчыльняць кантакты з дзяржавай, а людзі тым часам без камуністычных ідэолагаў ірвуць кантакты з царквою, яе новымі, раней нябачанымі завядзёнкамі.

Яшчэ не так даўно праваслаўнае свята "Свяча" ў вёсках лічылася вялізнай падзеяй і нечым асабліва сакральным, гэта значыць вартым пакланення. Несці свячу дазвалялася толькі самаму паважанаму і, вядома ж, непітушчаму чалавеку. У той хаціне, дзе абраз стаяў роўна год, не дазвалялася выпіваць, мацюкацца. З цягам часу змяншалася колькасць жадаючых прыняць свячу, а затым і зусім перавяліся тыя, хто гатовы паставіць на свой кут калісьці самую шанаваную ў той ці іншай вёсцы ікону. Святары, якія згодна з верай павінны кіраваць рытуаламі, зліліся з дзяржавай і нярэдка капіруюць тое, што робяць апушчаныя ў брыдоту грамадзяне.

Адзін вядомы маім цяперашнім землякам пастыр аднойчы так "нажлукціўся", што, не трымаючыся на нагах, размаляваў у крывавыя пісягі ўвесь твар, а прыйшоўшы на чарговае богаслужэнне, паскардзіўся пастве, што касіў траву і нечакана абамкнуўся на дрывоціну. Другая асоба пад рызай сціўбрыла важкі залаты крыж у свайго добра знаёмага пастыра і, па ідэі, павінна была быць назаўсёды адхілена ад богаслужэнняў. Але... Абодва святары ў рэшце рэшт атрымалі божае дараванне і... новыя прыходы.

Гэтыя дзве гісторыі нагадваюць парадкі, якія заведзены ў дзяржаўных установах: набедакурыў начальнік у адным месцы — яму прапаноўваюць другое, часам яшчэ больш зручнае і без тлумачэння насельніцтву пра здзейсненае ім на ранейшай пасадзе. Такім чынам, неадпаведнасць у паводзінах духавенства і наменклатуры не затармошваюць, а, наадварот, заганяюць у тупік уяўленне чалавека аб справядлівасці, сумленнасці, прыстойнасці. Што тычыцца дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, дык, паўтаруся, менавіта грамада павінна ўзняць іх на п'едэстал узору ўсюды і для ўсіх. Здаецца, што толькі такім чынам і агульнымі намаганнямі праз ігнараванне лайдакоў, выпівох і недальнабачнага чынавенства беларусы хоць бы часткова вернуцца да зафіксаванага "Живописной Россией" і толькі праз даволі працяглыя развагі і супастаўленні ад агульнай дэградацыі, падзелу насельніцтва на сваіх і чужых пяройдуць да адзінага цэлага **Я,** ад якога, на вялікі жаль, яны свядома адмовіліся ў час першых прэзідэнцкіх выбараў, стварыўшы сітуацыю, пры якой давялося адмаўляцца ад самага характэрнага і самага вызначальнага для любой нацыі — матчынай мовы.

**Мікола ЕРМАКОЎ.**

*Гомельская вобласць.*

ПАДЛІЧЫЛІ...

## *78% беларусаў будуць аплачваць электраэнергію па мінімальных тарыфах*

*"Каля 78% грамадзян спажываюць менш за 150 кВтг электраэнергіі ў месяц",* — заявіў гендырэктар "Белэнерга" **Аляксей Шырма**.

Паводле яго слоў, абанентаў, якія спажываюць 300 кВтг у месяц, — 3% ад агульнай колькасці абанентаў. *"Яны спажываюць 12% электрычнасці ад агульнага аб'ёму спажывання",* — дадаў кіраўнік "Белэнерга".

ЧУЛІ?

## *Знізіліся амаль на чвэрць*

*За 2012 год у рэальны сектар эканомікі (апрача банкаў) замежныя інвестары ўклалі 14,3 млрд доляраў, што на 24,1% менш, чым у 2011 годзе.*

Як паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт, асноўнымі інвестарамі арганізацый краіны былі суб'екты гаспадарання Расіі (46,7% ад усіх інвестыцый, што паступілі), Вялікабрытаніі (25,2%), Кіпра (6,4%), Аўстрыі (4%).

Найбольшыя сумы замежных інвестыцый паступілі ў арганізацыі гандлю, транспарту і прамысловасці. Большая частка ўсіх укладанняў прыпала на арганізацыі Мінска.

## *Пераезд авіярамонтнага завода зойме 2,5 года*

*Мінскія ўлады перанясуць яго вытворчасць сваімі сіламі, без прыцягнення інвестара.*

У гэтым годзе на пераезд завода будзе выдаткавана каля 90 млрд рублёў, паведаміў намеснік прэм'ер-міністра **Анатоль Калінін**. Завод перанясуць на новую пляцоўку ў раён Нацыянальнага аэрапорта "Мінск". А пасля, спадзяюцца беларускія ўлады, затраты на перанос завода вернуць інвестары, якія распачнуць на гэтай тэрыторыі будаўніцтва дзелавога цэнтра "Мінск-Сіці".

Як вядома, інвестара для рэалізацыі гэтага праекта мінскія ўлады шукаюць з 2008 года. Першапачаткова інвестарам будаўніцтва шматфункцыянальнага комплексу "Мінск-Сіці" (на тэрыторыі ў 318 га павінны былі размяшчацца жылы раён, аб'екты камерцыйнай нерухомасці і адміністрацыйныя будынкі) выступала група кампаній "Ітэра", але праект рэалізоўваўся нездавальняючымі тэмпамі, таму было прынята рашэнне знайсці новага забудоўшчыка.

РЭБУС

## *Чаму пераможца аўкцыёну не пералічыў паўмільёна долараў?*

*Даўно ўжо нікога не здзіўляюць кошты на зямельныя ўчасткі ў прыгарадзе сталіцы. Усе рэкорды б'юць землі каля вёскі Раўбічы і на беразе Дуброўскага вадасховішча. Але ўвагу журналістаў прыцягнуў аўкцыён, які адбыўся два месяцы таму. На ім пераможца абвясціў, што заплаціць за 15 сотак у вёсцы Аколіца...* ***паўмільёна долараў.*** *Лічба ўразіла. Але людзі, якія з'елі сабаку на падобных справах, параілі: "Пачакайце і паглядзіце, ці будзе выкуплена гэтая зямля..."*

Мы пачакалі. Пакупнік павінен быў пералічыць грошы на працягу 10 дзён. Час прайшоў, і "Народная Воля" вырашыла высветліць, ці стаў удзельнік аўкцыёну паўнавартасным уласнікам зямлі?

Высветлілася, што грошы ніхто не пералічыў. Аляксандр Унучко, які праводзіць аўкцыёны ў Мінскім райвыканкаме, патлумачыў, што, паколькі заяўленую суму ніхто не пералічыў, участак будзе прадавацца зноў, на наступным аўкцыёне.

Пакуль жа пераможца (калі яго можна так назваць) страціў 260 мільёнаў рублёў (каля 30.000 долараў), бо ў аўкцыёне ўдзельнічаў, суму называў, а грошы не пералічыў. Такая ўмова аўкцыёну. І высветлілася, што гэта распаўсюджаная практыка.

— Якая логіка такога ўчынку? Навошта заяўляць такую суму і губляць грошы?

— Ну, я ж не магу гэтага ведаць, — гаворыць спадар Унучко.

На самай справе логіка ёсць. Калі аўкцыён праводзіцца двойчы і не дае вынікаў, то здзелку ўжо можна заключаць без усялякага аўкцыёну. Зразумела, мы не можам сцвярджаць, што ў дадзеным выпадку нехта наўмысна завышаў кошт зямлі на аўкцыёне, каб проста не даць іншым выкупіць гэтую зямлю, "задушыць" іх астранамічным коштам. Але схема такая ёсць.

Цяпер участак будзе паўторна прадавацца на аўкцыёне 15 лютага.

У вёсцы Аколіца, дарэчы, прадаюцца два ўчасткі, яшчэ адзін у вёсцы Лапаровічы, што на беразе Мінскага мора, і чатыры ўчасткі выстаўляе Гаранскі сельсавет. Выканкам сам выстаўляе кошты, але яны не павінны быць ніжэй за кадастравыя. Цікава, што ў Аколіцы зямельны ўчастак і нават дом на ім можна набыць за 170 тысяч долараў, таму аніякай логіцы не паддаецца жаданне таямнічага ўдзельніка папярэдняга аўкцыёну набыць участак ажно за... паўмільёна долараў. Немагчыма адмахнуцца ад пытання, якое само напрошваецца ў такой сітуацыі: што ж насамрэч хаваецца за такімі аўкцыёнамі? Хто стане ўладальнікам гэтай зямлі і якую цану ў выніку за яе заплаціць?

**Любоў ЛУНЁВА**.
*Мінскі раён.*

АФІЦЫЙНА

## *Дэфіцыту ўрачоў не будзе праз год*

Медустановы будуць поўнасцю ўкамплектаваны ўрачамі да 2014 года, заявіў міністр аховы здароўя **Васіль Жарко**.

*"У гэтым годзе нам далі заяўку на размеркаванне на 2,4 тыс. чалавек, а ў нас выпуск 2 тыс. 820 урачоў. Таму задачу ўкамплектаваць да 2014 года медустановы дактарамі мы выканаем",* — сказаў Васіль Жарко.

*"Сёння ўрач працуе на 1,4 стаўкі, медсястра — на 1,2 стаўкі. Мы хочам захаваць узровень заработнай платы, пераглядаем працу ложкавага фонду, штатныя расклады, асабліва кіраўнічы апарат, і ўжо каля сотні чалавек адтуль перайшлі працаваць у амбулаторна-паліклінічнае звяно",* — дадаў міністр.

Па словах Жарко, у цяперашні час у Беларусі ўкамплектаванасць урачамі бальніц і паліклінік складае 95,9%, сярэднім медперсаналам — 97,8%.

МЕДДАВЕДКА

## *У Мінску пабудуюць новую клініку*

***Да канца года павінен быць гатовы яе праект.***

Клініка размесціцца ў мікрараёне "Паўночны". *"У перспектыве гэта будзе самая буйная і сучасная клініка горада. Але больш падрабязна аб праекце можна будзе казаць пасля таго, як ён пройдзе экспертызу",* — адзначыў старшыня камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама Віктар Сірэнка.

Паводле яго слоў, новыя бальніцы ў Мінску не будаваліся ўжо шмат гадоў, тады як насельніцтва штогод павялічваецца. *"Ёсць неабходнасць у будаўніцтве новай клінікі,* — заявіў Сірэнка. — *У Мінску на 1 тыс. жыхароў прыпадае 6,35 бальнічнага ложка, тады як у рэгіёнах 9—10 ложкаў. Пры гэтым сярод пацыентаў 10% — не мінчане".*

АСОБА

# Пясняр з Пружаншчыны

*(Працяг. Пачатак на 7-й стар.)*

Праца была цяжкая, але цікавая. Я арганізаваў там Калманскае культурна-асветнае таварыства. Мяне, васямнаццацігадовага хлопца, выбралі старшынёй. Праводзілі з сялянамі гутаркі на розныя тэмы, чыталі лекцыі, ставілі п'есы. У мяне было многа запалу. Сам я і іграў, і спяваў. Так я прапрацаваў адзін год.

Але на свеце было неспакойна. Бушавала грамадзянская вайна. Яе віхуры дакаціліся да ціхага сяла Калманскага і зрушылі мяне з месца. У выніку я апынуўся ў 1920 годзе ў Харбіне.

На станцыі "Пагранічная" Кітайскай усходняй чыгункі атрымаў пасаду настаўніка. Настаўніцкі персанал быў неаднародны, дзяліўся на рэвалюцыйных і рэакцыйных. Я быў з першымі. Мы прайгралі, і я страціў пасаду. Працу знайшоў у Вэйшахэ — на маленькай станцыі той жа Кітайскай усходняй чыгункі — як настаўнік ад бацькоў. Праз два гады за добрую працу быў пераведзены ў Харбін.

Тут я сістэматычна пачаў займацца над удасканаленнем свайго голасу. Са мной стала займацца прафесар Юлія Канстанцінаўна Плотніцкая — былая супрацоўніца Шаляпіна — чалавек ужо пажылога ўзросту, але яшчэ добрая артыстка і педагог.

Я ўжо сказаў, што спяваць любіў з дзіцячых гадоў: спяваў з маці, потым у школах выбіралі мяне ў салюты дзіцячага хору, спяваў у царкве і нават на вяселлях. Мог нядрэнна іграць на розных інструментах: на балалайцы, мандаліне, гітары, гармоніку і нават на скрыпцы, якая засталася ад бацькі. А на губным гармоніку я мог зайграць усё, што толькі пачую (зусім Сымон-музыка!). Памятаю, у маёнтку Шэйпічы, дзе працавала мая маці, быў раяль. Калі прыязджалі панскія дочкі (яны больш жылі ў Ваўкавыску) і пачыналі іграць, я гадзінамі стаяў за плотам і слухаў, забыўшыся аб усім на свеце. Добра ці дрэнна яны ігралі — не ведаю, але гэта была першая музыка, якую я пачуў на раялі. (Цяпер, калі радыё грае больш, чым трэба, мае пачуцці таго часу, можа, трудна нават зразумець.) Калі паны ад'язджалі з двара і маці дазваляла мне сцерці з раяля пыл, я не мог утрымацца і пачынаў падбіраць на клавішах адным пальцам знаёмыя мелодыі народных песень. Маці дзівілася і радавалася, але, баючыся непрыемнасцяў, адганяла мяне прэч.

Шкада, што не нарадзіўся я год 50 пазней, магло б быць з мяне нешта лепшае. Як цяпер у нас вышукваюць таленты! Як ім дапамагаюць развівацца! Як іх падтрымліваюць! Я сам удзельнічаю ў камісіях па адборы здольнай музычнай моладзі. І тады свет быў не без добрых людзей, але цяпер усё робіцца арганізавана.

У настаўніцкай семінарыі спевы былі пастаўлены добра: знаёмілі з тэорыяй музыкі, быў свой хор, вучылі дырыжыраваць. Таму к Плотніцкай я трапіў, маючы некаторую падрыхтоўку ў гэтай галіне. Аднак гэтага для сур'ёзнай музыкі было мала, і я пачаў у Тамашынскай вучыцца на раялі, а з дырыжорам Метэрам праходзіў курс гармоніі.

Праца ішла добра, і аба мне сталі гаварыць як аб вельмі надзейным маладым спеваку. Так я займаўся два гады. Але чым больш займаўся, тым менш быў задаволены сабой, тым менш у сябе верыў. Стамляла праца ў школе, асабліва моцна адбіваючыся на горле, і я не мог спяваць так, як хацеў, так, як сабе ўяўляў.

Урэшце, ад кар'еры спевака адмовіўся. Гэта было нялёгка, бо са спевамі я даўно і моцна зросся.

Каб нешта рабіць, паступіў на эканамічнае аддзяленне Харбінскага ўніверсітэта.

Заняткі там праходзілі ў другую змену, я працаваў у школе — у першую змену. Такім чынам, я мог спалучаць работу з вучобай. Працаваў многа і вучыўся добра. Усё гэта было для розуму, а сэрца ўсё ж заставалася ў песні. Сэрца хацела спяваць.

Ад вялікай нагрузкі арганізм не вытрымаў, здароўе падарвалася. Урачы знайшлі сэрца хворым, і самае небяспечнае — аказаліся хворымі лёгкія. Даведаўшыся, што брат памёр ад сухотаў, дактары параілі неадкладна лячыцца. І ўсё ж вучобу ва ўніверсітэце не пакінуў. Працаваў асцярожней, менш, але ішоў наперад. Не пакінуў і спевы.

У 1929 годзе скончыў універсітэт, і мне прапанавалі асістэнтуру. Але я накіраваўся ў оперу. Думалі, што звар'яцеў чалавек...

А пачалося ўсё так.

У 1929 г. на Кітайскай усходняй чыгунцы адбыўся канфлікт паміж кітайскай і савецкай часткай праўлення. У знак салідарнасці з Савецкім Саюзам была аб'яўлена неафіцыйная забастоўка, у якой прыняла ўдзел і мая школа. Улады, варожа настроеныя да Савецкага Саюза, пазбавілі нас жалавання. Што было рабіць? Я звярнуўся да опернага калектыву, але там месца не знайшлося, усё было ўкамплектавана. Сезон тэатр планаваў пачаць "Русалкай" Даргамыжскага, і раптам бас Шушлін, які павінен быў спяваць мельніка, парушыў кантракт і выехаў у Шанхай. Такім чынам пастаноўка "Русалкі" была пад пагрозай зрыву. Калектыў шукаў выйсця. З Ленінграда мелі добрага барытона Вітэльса, які мог спяваць Анегіна (Чайкоўскага). Пачалі шукаць артыста на партыю Ленскага. На пробу паклікалі мяне. Спадабаўся. Тут жа рашылі замест "Русалкі" ставіць "Яўгенія Анегіна".

За два тыдні я падрыхтаваў партыю Ленскага. Што пераžыў за гэты час, трудна расказаць. Мой дэбют меў поспех, і мяне залічылі ў трупу опернага калектыву.

Потым я спяваў Сінадала з оперы Рубінштэйна "Дэман", затым пайшлі і іншыя партыі. Да 1932 года я праспяваў 15 роляў. Гэта былі Фаўст з "Фаўста" Гуно, Альфрэд з "Травіяты" Вердзі, Герцаг з "Рыгалета" Вердзі, Альмавіва з "Севільскага цырульніка" Расіні, князь з "Русалкі" Даргамыжскага, цар Берэндзей з "Снягурачкі" Рымскага-Корсакава, Лыкаў з "Царскай нявесты" Рымскага-Корсакава, Уладзімір з "Князя Ігара" Барадзіна, Уладзімір з "Чарадзейкі" Чайкоўскага, Пінкертон з "Мадам Батэрфляй" Пучыні, Рудольф з "Багемы" Пучыні і іншыя.

Паралельна я працаваў і ў школе, куды зноў вярнуўся пасля забастоўкі.

Маё выступленне ў оперы мела поспех. І я пачынаў верыць у сябе, хацелася і надалей удасканальвацца ў спевах.

Увесь гэты час я жыў вельмі сціпла, бо збіраў грошы для паездкі ў Італію, аб якой марыць кожны добры спявак.

У 1932 г. атрымаў візу, звольніўся са школы, пакінуў тэатр і паехаў у Мілан.

У Мілане сустрэўся са спявачкай Анджэлікай Краўчанка, якая раней была ў Харбіне. Яна пазнаёміла мяне з выдатным майстрам спеву Фернанда Карпі, які раней альтэрнаваў з Каруза і іншымі славутымі спевакамі.

З Карпі я працаваў амаль кожны дзень. Маэстра дзівіўся з маёй працавітасці, хваліў мяне і паказваў іншым вучням. Цікава, што потым да мяне на лекцыі спеву прыходзілі вучні — іншаземцы, і я сапраўды дапамагаў ім, бо ад прыроды меў добрае вуха і адразу адчуваў, каму чаго не хапае. У тыя часы і сам я вельмі ўважліва слухаў выдатных спевакоў, што выступалі ў Мілане, і, зразумела, многаму ад іх вучыўся. Тут я ўпершыню пачуў Шаляпіна. Ён спяваў Дона Базыля ў тэатры Ла Скала. Поспех быў такі вялікі, што артыст вымушаны быў бісіраваць арыю, хоць у гэтым тэатры бісы не дазваляліся. (У кнізе аб Шаляпіне, выдадзенай у Савецкім Саюзе, якраз ёсць здымак з гэтага выступлення.)

У Мілане я сустрэўся і са слаўным Собінавым, які прыязджаў у Італію падшукаць добрага прафесара спеваў для Масквы. Собінаў быў надзвычай прыемны і добразычлівы. Запрасіў мяне да сябе. Мы доўга гутарылі, а потым спявалі. Калі я праспяваў арыю Ленскага, ён сказаў: "Как вы припоминаете мои лучшие молодые годы!" Даў мне свой адрас і сказаў: "Совершенствуйтесь и приезжайте к нам в Москву".

Усё, аднак, склалася інакш. Нездарма кажуць: "Человек — раб обстоятельств". Я працаваў так многа, што ў лёгкіх зноў пачаўся працэс. Давялося лячыцца. Паехаў у Сан-Рэма. Папраўіўшы трохі здароўе, вярнуўся ў Мілан і працягваў спяваць. Я спяваў на італьянскай мове ў операх "Травіята", "Рыгалета", "Фаўст", "Севільскі цырульнік" і іншых. Мяне запрашалі выступаць у канцэртах. Крытыка аб маіх выступленнях была вельмі станоўчая. Вось што пісаў "Corriere di Savona" (31.X.1934): *"Тэнар Міхаіл Забэйда пацвердзіў поспехі, якія меў нядаўна на сваім артыстычным турнэ і якія паўтарацца вечарам 31-га г. м. у Мілане. У Забэйды адразу адчуваецца пяшчотная душа славянскага мроючага паэта. Яго тонкая інтэрпрэтацыя захапляе слухачоў. Яго голас — гэта дасканалы інструмент, які здольны перадаць усе пачуцці, змешаныя ў вершы, нават і тады, калі спявае на чужой мове... Гэта пацвердзіла публіка сваімі апладысментамі, дамагаючыся паўтарэння".*

L'ordine, 26.X.1934 — Como — піша: *"Міхаіл Забэйда — тэнар надзвычайнай якасці, артыст высокай культуры, голас мяккі, гнуткі, падобны голасу яго суайчынніка Собінава, інтэрпрэтаваў з выключнай чуллівасцю тонкія кампазіцыі Stein-Schneider, выклікаўшы захапленне ва ўсіх слухачоў".*

І яшчэ "Ciornale dell Arte" (часопіс мастацтва), Мілан; 15.VI.1935 г. у допісе "Поспехі тэнара М.Забэйды":

*"У галіне канцэртнага і опернага жыцця трэба адзначыць тэнара Міхала Забэйду, які нядаўна выступіў з канцэртам у Міланскай кансерваторыі Вердзі. Забэйда і на гэты раз прадэманстраваў свае выдатныя якасці — галасавыя і інтэрпрэтацыйныя. Трудная праграма была выканана належным чынам, пахвальна, а ў серанадзе з оперы "Ius Primae Noctis" кампазітара P. di Cagno (Канья), якую Забэйда праспяваў страсна, з экспрэсіяй, багатай гарманічнымі тонамі і сфуматурамі, што паказвае дасканалае майстэрства, публіка бурна апладзіравала мастаку, дамагаючыся паўтору.*

*Гэты малады артыст прыехаў у Італію ў 1932 г., да гэтага спяваў за граніцай у розных рускіх і італьянскіх операх ("Севільскі цырульнік", "Рыгалета", "Фаўст" і інш.).*

*На музычным фестывалі ў Варэзе Забэйда выступіў з вялікай праграмай, спяваючы на мове арыгінала творы рускіх, французскіх, іспанскіх і іншых кампазітараў, выклікаючы агульнае захапленне.*

*Італьянскія газеты параўноўваюць Забэйду з Ціта Скіпа за асалоду і харахтво яго спеву. Іншыя зноў параўноўваюць яго з вялікім рускім спеваком Собінавым, што дазваляе прарочыць Забэйду вялікую артыстычную будучыню".*

У гэты час я атрымаў з Шэйпічаў вестку аб тым, што мая маці, якая пасля вайны вярнулася на радзіму, моцна хварэе і хоча бачыць сына. Прыйшлося развітацца з Італіяй і ехаць на радзіму. (Праўда, я ўжо жыў тады ў Польшчы.) З маці я не бачыўся 16 гадоў. Пры сустрэчы было многа радасці і слёз.

На сезон 1935—1936 гг. заключыў кантракт з Познанскай операй. Там усё спяваў па-польску. Пашырыў свой рэпертуар новымі операмі: "Унос з сэралю" Моцарта, "Юлій Цэзар" Гендэля, "Барыс Гадуноў" Мусаргскага і іншымі, у якіх спяваў галоўныя тэнаровыя ролі. Адносіны да мяне дырэктара оперы былі не з лепшых, бо я не ўтойваў таго, што я беларус.

Палітыка польскага буржуазнага ўрада тады была такая: "У Польшчы няма беларусаў". Вось адзін з фактаў тых адносін. Ставіцца "Яўгеній Анегін" Чайкоўскага. Я буду спяваць Ленскага. Раптам даведваюся, што маю ролю даюць другому. Проці ражна не папрэш! Я мусіў прымірыцца, бо такі быў загад дырэктара. Настаў час прадстаўлення. Сяджу ў зале сярод публікі, гляджу, слухаю. Тэнар спявае выдатную арыю "Куда, куда вы удалились". Напярэдадні на рэпетыцыі дамовіліся, што гэту арыю "тэнар" (паляк) будзе бісаваць (кажу "тэнар", бо Ленскага я там не бачыў). Артыст адспяваў арыю, але зала не выказала жадання слухаць паўторна арыю, "біса" ніхто не падаў. А калі "тэнара" "застрэлілі" на сцэне, раптам у наступіўшай цішыні з залы пачуўся голас: "Добра яму гэтак!"

На другое прадстаўленне прапанавалі мне спяваць партыю Ленскага. Папярэдніх рэпетыцый з аркестрам не было, і, зразумела, "біс" не прадбачыўся. Але калі я скончыў арыю Ленскага, воплескам не было канца. Дырыжор спрабаваў некалькі разоў іграць далей і кожны раз быў змушаны спыніцца: публіка прасіла паўтарыць арыю. Хочучы не хочучы, дырыжор мусіў ізноў іграць уступ да арыі, якую я нечакана праспяваў два разы. "Нарэшце маем Ленскага", — гаварылі потым слухачы.

У тых умовах мне працаваць было цяжка, і я пераехаў у Варшаву.

На маё выступленне па радыё адгукнулася Вільня. Рыгор Раманавіч Шырма запрасіў мяне на канцэрт. Як вядома, беларуская моладзь на канцэрце насіла мяне на руках.

Там я пазнаёміўся і з Максімам Танкам. Гэтыя сустрэчы дапамаглі мне ўтрымацца на той дарозе, па якой я іду і сёння. Гэта дарога не абяцала вялікай кар'еры, але яшчэ больш зблізіла мяне з роднаю песняю — песняю маёй маці, давала магчымасць распаўсюджваць гэту песню, несці яе ў свет, паказваць яе красу, даваць людзям радасць і ўзбагачаць гэтай песняю сусветную культуру.

Як ставіліся ў Польшчы да беларускай песні? Па-рознаму. Спачатку смяяліся, што Забэйда — спявак італьянскай школы — уключыў у канцэртную праграму мужыцкую песню. А потым? Калі пабачылі, што на мае канцэрты не толькі ідуць слухаць, але прыязджаюць за дзясяткі кіламетраў, каб пачуць у маім выкананні гэтую мужыцкую песню, тады сталі мне забараняць спяваць у канцэртах беларускія, а разам і рускія песні. А кар'ера вырысоўвалася сапраўды вельмі "спакуслівая". Адзін раз я спяваў у польскім радыё праграму, якую перад гэтым выконваў славуты Кепура (сімфанічным аркестрам дырыжыраваў Г.Фітэльберг). І вось пасля майго выступлення, між іншым, напісалі: "У Забэйдзе-Суміцкім Кепура знайшоў небяспечнага канкурэнта". Знайшліся такія, што ўгаварылі мяне адмовіцца ад беларускай песні. Я быў няўмольны. Тады мне замест кар'еры паабяцалі Картуз-Бярозу... Гэта была турма.

*(Працяг будзе.)*

МЕДДАВЕДКА

## Наколькі шкодны мабільны тэлефон для дзіцяці?

*Медыкі катэгарычны: дзецям можна карыстацца мабільнымі тэлефонамі толькі ў надзвычайных сітуацыях.*

Калі верыць вынікам даследавання ўплыву тэлефонаў мабільнай сувязі на арганізм чалавека, можна прыйсці ў жах, таму што яны руйнуюць чалавечы мозг. Людзі, якія карыстаюцца пастаянна мабільнымі тэлефонамі, самі таго не заўважаючы, знаходзяцца ў вельмі моцным напружанні. Клеткі мозгу такога чалавека адміраюць ў некалькі разоў хутчэй, чым у чалавека, які не карыстаецца сотавай сувяззю. І як вынік — зніжэнне памяці, частыя галавакружэнні і галаўны боль, парушэнне увагі. А мозг дзіцяці паглынае значна больш выпраменьвання, чым дарослага. У дзіцяці мазгавая тканка больш успрымальная, ды яшчэ вельмі мяккая вушная ракавіна, таму яны бліжэй, чым дарослыя, падносяць апарат, скарачаючы адлегласць паміж галавой і тэлефонам.

Калі казаць пра магчымыя наступствы больш канкрэтна, то варта сказаць, што дзеці да 18 гадоў, якія карыстаюцца мабільнымі тэлефонамі, рызыкуюць атрымаць праблемы з памяццю, паніжэнне ўвагі, парушэнні сну, а таксама перыядычныя галаўныя болі. Таксама ў іх падвышаецца схільнасць да развіцця эпілепсіі і анкалагічных захворванняў.

Але ўсе разумеюць, што поўнасцю выключыць з жыцця дзіцяці мабільнік складана. Дый бацькі і самі не супраць купіць ім тэлефон: так можна заўсёды ведаць, дзе знаходзіцца дзіця, звязацца з ім у любую хвіліну.

Але каб звесці да мінімуму рызыку ўплыву мабільнага на здароўе дзіцяці, медыкі раяць бацькам:

*— максімальна абмяжуйце час размовы дзяцей па сотавым тэлефоне, размова не павінна быць больш за 5 хвілін, перапынак паміж званкамі не менш за 20 хвілін;*

*— не пажадана ўвесь час насіць тэлефон у кішэні, тым больш у доме, дзе ў гэтым няма ніякай патрэбы;*

*— рэкамендавана па магчымасці выкарыстоўваць пры званках гучную сувязь, а падчас размовы трымаць тэлефон на адлегласці ад галавы;*

*— купляйце дзецям сучасныя тэлефоны (не абавязкова дарагія), таму што ў іх істотна зніжана магутнасць выпраменьвання ў параўнанні з састарэлымі мадэлямі;*

*— набудзьце для дзіцяці навушнікі;*

*— на ноч тэлефон варта адключаць, таму што ён, калі працуе ў рэжыме чакання, можа ўздзейнічаць на сон і парушаць яго фазы, да таго ж падумайце ці сапраўды вашаму дзіцяці трэба прымаць мабільны побач з ложкам.*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Юрый ПУНТУС:

# «З увядзеннем новай формулы правядзення чэмпіянату могуць з'явіцца дамоўленыя матчы...»

*На мінулым тыдні стала вядома, што першынство Беларусі па футболе зараз будзе праходзіць па новай схеме. Ці на карысць гэта беларускаму футболу? Чаму адны клубы выступаюць "за", а іншыя — "супраць"? Ці дажывём мы да тых часоў, калі падчас матчаў нацыянальнага чэмпіянату на трыбунах яблыку не будзе дзе ўпасці? Аб гэтым карэспандэнт "Народнай Волі" гутарыць з былым галоўным трэнерам зборнай Беларусі, цяпер — "глаўкамам" клуба "Смалявічы-СТІ"* ***Юрыем ПУНТУСАМ.***



Нагадаем, што футбольнае першынство Беларусі ў наступным сезоне пройдзе ў новым фармаце — з разбіўкай каманд на шасцёркі.

Кожная з 12 каманд па кругавой схеме, як і раней, згуляе 11 хатніх і 11 гасцявых матчаў. Пасля гэтага шэсць найлепшых каманд аб'ядначюць у адну групу, шэсць слабейшых — у іншую (яшчэ плюс дзесяць гульняў для кожнага клуба). Каманды з мацнейшай шасцёркі будуць змагацца за медалі, са слабейшай — за права застацца ў вышэйшай лізе. Пры гэтым ачкі, набраныя камандамі ў кругавым турніры, захаваюцца.

Пяцёра сябраў выканкама Федэрацыі футбола выступілі супраць такога рашэння — Аляксандр Кернажыцкі, Юрый Вяргейчык, Сяргей Сафар'ян, Віктар Ганчарэнка і Юрый Пунтус.

— Па той схеме, што будзе ў нашым першынстве, многія краіны ўжо гулялі, але адмовіліся ад яе і даўно забылі, — кажа суразмоўца. — Гэта ж, напэўна, аб нечым кажа. Ды я і сам маладым іграком выступаў у чэмпіянаце краіны па падобным прынцыпе. І не памятаю, што тады ўсе былі ў захапленні ад той формулы. Дзякуй Богу, калі мы здолеем павысіць канкурэнтнасць у барацьбе за прызавыя месцы і за выхад на еўратурніры. Але ж ёсць і іншы бок медаля. Я не выключаю, што з увядзеннем новай схемы правядзення чэмпіянату могуць з'явіцца дамоўленыя матчы.

**— Адкуль такія заключэнні?**

— На мой погляд, будзе больш матчаў без аніякай матывацыі. У гэтым небяспека. Апошні чэмпіянат быў вельмі супернапружаны і цікавы, каманды змагаліся ў кожнай гульні за медалі і за права застацца ў вышэйшай лізе. Каму спатрэбіліся гэтыя нававўвядзенні?.. Можа, для маладога беларускага першынства і неабходна нейкая навізна. 100-працэнтнай шкоды яна не нанясе, футбол не развалiцца. Але, як мне падаецца, праз нейкі час мы дойдзем да таго, што чэмпіянат трэба пашыраць. І словы "ў нас няма каму гуляць" — яны для бедных. Трэба дапамагаць больш слабым клубам.

**— БАТЭ, скажам так, таксама не вітае новую формулу першынства. Для шматразовага чэмпіёна краіны тут ёсць небяспека страціць пазіцыі лідара? Складаней будзе змагацца за золата?**

— Не думаю, што БАТЭ некага баіцца, але розныя падводныя камяні могуць існаваць. Хоць я далёкі ад думкі, што гэта спецыяльна робіцца, каб аслабіць барысаўскі клуб. А чаму той жа настаўнік барысаўскай каманды Віктар Ганчарэнка не падтрымаў новую ініцыятыву? У БАТЭ ж разумныя людзі, усё аналізуюць.

**— Ці можа новаўвядзенне падняць цікавасць у балельшчыкаў да матчаў чэмпіянату Беларусі?**

— Час пакажа. Змяняючы схему, кіраўніцтва, напэўна ж, плануе, што будзе больш напружаных, цікавых гульняў. Але я ўпэўнены — гульня заўсёды будзе напружанай, калі ёсць эмацыянальны настрой.

**— А ці ходзяць балельшчыкі на матчы першай лігі?**

— Усё адносна. Калі мы гулялі ў аграрным пасёлку, на стадыён прыходзіла каля 300—400 чалавек. А ва ўсім пасёлку — каля 2 тысяч. Калі сыходзіць з гэтых лічбаў, то наведвальнасць не вельмі дрэнная. Я ж не буду народ на стадыён прывозіць з іншых гарадоў. Ды і наогул не прыхільнік таго, каб балельшчыкамі штучна напаўнялі трыбуны. Аматары футбола павінны прыходзіць самі.

**— Дык што трэба, каб у балельшчыкаў з'явілася цікавасць да айчыннага футбола?**

— Першае — цікавая гульня самой каманды. Другое — арганізацыйныя моманты. Антураж матча. Вось, напрыклад, ёсць людзі, якія ніколі не ходзяць на футбол. Скажам так, не фанаты. Але на цікавы матч пойдуць і пастаянныя балельшчыкі, і тыя, хто за кампанію. Зразумела, што апошнія, калі трапяць на гульню, дзе на трыбунах 100 чалавек, больш ніколі на стадыён не пойдуць. Але ж калі поўны стадыён, усе перажываюць... Вось такі футбол нам патрэбны! На БАТЭ, напрыклад, барысаўчане ходзяць на ўсе матчы ў любое надвор'е. Каманда ўлюбіла ў сябе балельшчыкаў. А любові без узаемнасці не бывае.

**Алесь СІВЫ.**

ПРЭЦЭДЭНТ

## У Мінску судзілі курыльшчыка ў пад'ездзе

Усе ведаюць, што паліць у пад'ездзе забаронена, можна атрымаць штраф. Але прыцягнуць да адказнасці курца складана: прадстаўнікі ЖЭС або міліцыі павінны літаральна злавіць за руку парушальніка. Для прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці неабходны таксама паказанні двух незалежных сведак. Але нядаўна такі судовы прэцэдэнт адбыўся. У Мінску судзілі чалавека, які выкурыў цыгарэту на лесвічнай пляцоўцы.

Як паведамляе "Мінск-Навіны", выязное пасяджэнне суда Маскоўскага раёна прайшло ў гімназіі №12. Публічна разгледаліся дзве справы: курэнне ў пад'ездзе і антысанітарыя ў кватэры. На абодвух падсудных у якасці адміністрацыйнага пакарання накладзены штраф: 1 млн і 1,2 млн рублёў адпаведна.

Нагадаем, што ў жылым шматкватэрным доме паліць можна толькі ва ўласнай кватэры і на балконе. На лесвічных клетках, у агульных тамбурах, ліфтах — забаронена. Такія патрабаванні ўстаноўлены "Правіламі карыстання жылымі памяшканнямі", зацверджанымі Мінжылкамгасам. У выпадку парушэння правілаў прадугледжаны штрафы ад 10 да 30 базавых велічынь (сёння 1—3 млн рублёў).

## На дне

Чарговы матч беларускіх тэнісістаў у Кубку Дэвіса яшчэ раз паказаў, у якім заняпадзе знаходзіцца сёння наш мужчынскі тэніс. Мужчынская зборная Беларусі па тэнісе прайграла ў гасцях камандзе Манака ў матчы першага круга другой групы Еўра-Афрыканскай зоны Кубка Дэвіса. У першы дзень Дзмітрый Жырмонт (285-е месца ў адзіночным рэйтынгу АТП) саступіў Бенжамену Байрэ (571) — 1:3, а Уладзімір Ігнацік (142) перамог Жана-Рэнэ Лінара (без рэйтынгу) — 3:0. У парнай сустрэчы Максім Мірны (6-е месца ў парным рэйтынгу) і Андрэй Васілеўскі (293) былі слабейшыя за Байрэ (619) і Гіёма Куяра (945) — 2:3.

У мінулую нядзелю Ігнацік прайграў Байрэ — 1:3. Агульны лік стаў 3:1 на карысць гаспадароў, а апошні матч (Жырмонт з Лінарам) ужо не меў аніякага турнірнага значэння, паведамляе БелаПАН.

5—7 красавіка Беларусь згуляе з Тунісам у матчы за права застацца ў другой групе ЕАЗ.

## За допинг — уголовная ответственность

Министр спорта и туризма Александр Шамко выступил за введение уголовной ответственности за незаконный оборот стероидных препаратов и принуждение к употреблению допинга. Соответствующие изменения в законодательство готовятся, сообщил он на заседании коллегии ведомства.

ШАШКІ

## Зарубежныя госці

Дзякуючы сайтам старадаўняй гульні нашу рубрыку ведаюць шмат у якіх краінах. Замежныя майстры шашачнай кампазіцыі, жадаючы выступіць у ёй, даслалі на электронны адрас вядучага рубрыкі свае новыя творы на 64- і 100-клетачных дошках. Наступныя з іх заслугоўваюць увагі:



1 (Юрый Голікаў, Расія). **Белыя**: d6, e3, e7, h2, дамкі f4, f6, h4 (7). **Чорныя**: b6, дамка d8 (2). Замкнуць простую чорных. Зрабіце гэта самастойна. Задача-64 прысвечана І.Вальтэру.

2 (Генадзь Андрэеў, Латвія). **Белыя**: 17, 20, 24, 25, 29, 30, 31, 32, 34, 41 (11). **Чорныя**: 10, 15, 26, 35, 38, 39, 43, 44 (9). Камбінацыйная праблема-100: 21, 12, 14, 2, 7, 24, 14x.

3 (Іван Івацка, Украіна). **Белыя**: 20, 21, 27, 30, 31, 32, 34, 37, 42, 43 (10). **Чорныя**: 7, 9, 12, 14, 16, 17, 19, 26, 33 (9). Праблема-100: 29, 28, 22, 2, 36x.

4—5 (Аляксандр Палявы (Ізраіль) у сааўтарстве з мінчанінам Мікалаем Грушэўскім). **Белыя**: 9, 19, 25, 28, 30, 33, 46 (7). **Чорныя**: 7, 17, 18, 27, 37, 39, 43, 44 (8). Праблема-100: 41, 20!, 3, 1 (32A) 29 (37) 47x. A(33) 34 (38) 48x.

**Белыя**: 15, 20, 28, 30, 33, 47 (6). **Чорныя**: 7, 17, 27, 31, 37, 39, 44 (7). Праблема-100: 41, 10, 5, 2x.

6 (Уладзімір Рычка (Украіна). **Белыя**: 22, 32, 39, дамкі 2, 6, 15, 28 (7). **Чорныя**: 5, дамка 46 (2). Задача-100: пазбавіць хадоў простай чорных на палях 25 і 45: 28-10 (11A) 33, 10, 34, 15, 20, 2-30#. A(50) 20!, 2-11, 44, 35, 40, 50#.

7 (Ілля Вальтэр, Узбекістан). **Белыя**: b6, e1, f6, g1, g5, g7, дамкі a3, d6, f4 (9). **Чорныя**: b8, d8, f8, h4, h6 (5). Задача-64: узяць у палон дзве простыя чорных — fg3 (h2A) df4, fg5, fe7, bc7, e3, f2#. A(f2) g3, df4, fe7, bc7, g5#.

Гросмайстар Ю.Голікаў у чэмпіянаце свету-1 па складанні задач-100 заняў 6-е месца, У.Рычка — 10-е. І.Івацка з'яўляецца членам Камісіі па шашачнай кампазіцыі ФМЖД, выдаў кнігу "Шашки — мой досуг" (Черкассы, 2009). А.Палявы стварае электронную базу камбінацый, эцюдаў і задач, якія змешчаны ў кнігах, апублікаваны ў газетах і часопісах, убачылі свет у інтэрнэце. І.Вальтэр — майстар спорту СССР, а Г.Андрэеў — арбітр міжнароднага значэння.

## Чэмпіянат Еўропы

Ён адбыўся ў Вільнюсе па шашках-100 сярод ветэранаў. Нашу краіну прадстаўляла міжнародны гросмайстар, старшыня Беларускай федэрацыі шашак Ірына Пашкевіч. Яна ўвайшла ў дзясятку мацнейшых. У жаночым жа заліку яна была першай.

## Рашаем разам

**"Чэмпіянат Еўропы"** (М.Амрылаеў—А.Валюк). На e3 стаіць простая белых, а на c5 — простая чорных: 1. fg3? ab2! 2.ca3 gh4 3.ab4 ca3 4.fe5 hf2 5.eg1 ab2x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by**
**http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

 **Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 4.02.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27600 экз. Заказ №657.**